# НАПАМІН ПРА ТРАГЕДЫЮ

У адзін з цудоўных травеньскіх дзён я ішоў праз цэнтральны менскі парк, сьпяшаючыся ў рэдакцыю. Гэта быў рэдкі дзень гармоніі — прыроднай, настраёвай, каляровай... На адкрытай арэне сядзела купка людзей зь вялізнымі трубамі. Нават раскудлачаныя гукі, што вырываліся ў працэсе наладкі духавых інструмэнтаў, ніяк не канфліктавалі з навакольлем — бо ў гэтай працы з інструмэнтамі была творчасьць. Я адыйшоў ужо досыць далёка, разважаючы, што ня ўсё так кепска. Раптам нейкая паветраная хваля штурхнула мяне ў сьпіну, гукі бравурнай мэлёдыі запанавалі ў паветры. Нарэшце, я ўсё зразумеў — вэтэранскі аркестар пачаў выконваць мілітарныя кампазыцыі, што прысьвечаныя ІІ-й сусьветнай вайне, але напісаныя ўжо пасьля яе.

Так прыйшла дысгармонія, так пампэзнымі сьвяткаваньнямі дэфармавана нават ня праўда, якая можа быць у кожнага свая, а сутнасьць падзеяў. Карціна нацыянальнай трагедыі па-ранейшаму падмяняецца лёзунгамі гераізму.

У шматлікіх нямецкіх дакумэнтах пэрыяду 1941-42 г. пазыцыя значнай часткі жыхарства Беларусі характарызавалася як чаканьне, казалася пра моцныя ваганьні ў настроях насельніцтва. Многія беларусы імкнуліся ўхіліцца ад удзелу ў глябальным канфлікце "Фашыстоўская Нямеччына — Камуністычны СССР". Максымальная колькасьць тых, хто так ці інакш браў удзел у супраціве нямецкаму акупацыйнаму рэжыму (выконваючы ў тым ліку разавыя даручэньні) дасягала 5% жыхарства Беларусі. Яшчэ большая колькасьць людзей супрацоўнічала з рэжымам. І ўсе задавалі пытаньне: "Ці будуць пасьля вайны калгасы?" Як пазьней адзначыць А.Адамовіч: "Людзям было так крыўдна паміраць за гэтыя самыя калгасы".

Для СССР і Нямеччыны тая вайна была скрайне заідэалягізаваная — сутыкнуліся канкурэнцыйныя таталітарныя сыстэмы і вырашаўся іхны лёс. Адныя свае прэтэнзіі на сусьветнае панаваньне абгрунтоўвалі сусьветнай рэвалюцыяй, другія — расавай перавагай арыйцаў. У такіх умовах пра кампрамісы паміж камуністамі й нацыстамі не вялося (дакладней, кампраміс быў дасягнуты ў 1939 г. толькі на пачатковай стадыі канфлікту й тое часова). Ваенная рэчаіснасьць, не зважаючы на жаданьні й намеры беларусаў, усё ж уцягнула іх у сваю стыхію. Хто быў мабілізаваны ў Красную армію, хто апынуўся ў партызанах, хто ўвайшоў у структуры, сфармаваныя немцамі... Вайна ў тыле непазьбежна нараджае сытуацыю азлабленьня й бандытызму. У дачыненьні да пэрыяду лета 1944 г. можна казаць пра элемэнты своеасаблівай грамадзянскай вайны. Пазбаўленыя суб'ектнасьці сваёй краіны, жыхары Беларусі сталі ахвярамі вайны. Канец вайны азначаў канец нацысцкага тэрору, але бальшавіцкі тэрор працягнуўся — вярнуліся калгасы, грамадзяне краіны па-ранейшаму адпраўляліся ў Сібір, вольнае беларускае слова стала крыміналам.

Дык ці адпавядаюць гэтаму травеньскаму дню заканчэньня ІІ-й сусьветнай вайны пампэзныя сьвяткаваньні, якія скарыстоўваюцца, апроч іншага, для ўмацаваньня ідэалягічных пазыцыяў славянскага расізму? Для Беларусі гэты дзень — дзень паміnаньня палеглых у той вайне, дзень напаміну пра трагедыю.

Алег Дзярновіч

# ДЫКТАТАР ЦІ НЕ?

*А.Лукашэнка даў інтэрвію маскоўскаму карэспандэнту ангельскай "Financial Times" Хрысьціне Фрыдлянд. Некаторыя дзяржаўныя газэты паведамілі пра гэта, выбраўшы з інтэрвію асобныя моманты і не згадаўшы пры гэтым назвы ангельскага матэрыялу. Між тым, артыкул з фатаграфіяй прэзыдэнта РБ называецца "Калгасьнік з царскімі амбіцыямі"...*

У адрозьненьне ад іншых былых савецкіх гарадоў, якія вылузнуліся з сваіх камуністычных скураў, Менск, на думку Х.Фрыдлянд, вяртаецца да старога рэжыму. Аўтарка згадвае абставіны разгону дэманстрацыі 26 красавіка і лёс затрыманых удзельнікаў. Увогуле, адзначае яна, паступовае разбурэньне Лукашэнкам судоў і сродкаў масавай інфармацыі, парлямэнту і нават прыватнага бізнэсу дае падставы некаторым аглядальнікам абвінавачваць яго ў пабудове паліцэйскай дзяржавы паводле ўзору лацінаамэрыканскіх хунтаў.

Выгляд Лукашэнкі ў атачэньні ягоных мускулістых, але нэрвовых памочнікаў далёкі ад раскаяньня. У інтэрвію ён ахарактарызаваў падзеі мінулага тыдня як "мітынг фашыстоўскай апазыцыі". Дэманстранты, паводле словаў Лукашэнкі, былі п'яныя ды адурманеныя наркотыкамі. І менавіта яны зьбівалі журналістаў, а не прадстаўнікі службы бясьпекі. "Дазвольце мне запэўніць вас, — сказаў прэзыдэнт журналістцы, — калі б мы хацелі весьці барацьбу, гэта была б сапраўдная барацьба. У дэмакратычных краінах такіх людзей проста б'юць дубінкай па галаве, і на тым сканчаюцца ўсе дыскусіі".

Як узор беларускага лібэралізму Лукашэнка прыводзіць той факт, што "мы не закрылі асобныя выданьні, хаця павінны былі зрабіць гэта згодна з законам". Беларуская апазыцыя, піша "Financial Times", раздражнёная тым, што Лукашэнка бесцырымонна ігнаруе грамадзянскія правы сваіх суайчыньнікаў. Аднак гэтаму супрацьстаіць балючы для апазыцыі аргумэнт пра надзвычайную папулярнасьць прэзыдэнта. Гэта яго казырная карта. Аднак, адзначае Х.Фрыдлянд, апошнія дэманстрацыі пацьвярджаюць, што значная колькасьць звычайна паслухмяных людзей Беларусі ўсё больш незадаволеная спаўзаньнем краіны да аўтарытарызму.

"Дык дыктатар я, ці не? — пытаецца сам Лукашэнка. — Калі я маю такую надзвычайна высокую папулярнасьць, навошта мне кіраваць краінай дыктатарскімі мэтадамі?"

Тлумачэньне гэтай папулярнасьці журналістка знаходзіць у савецкай мэнтальнасьці людзей Беларусі. Ці можа стацца, што ў адзін дзень Лукашэнка апынецца лідэрам вялікай расейска-беларускай канфэдэрацыі? Сам ён адкрыта не заяўляе пра такія амбіцыі. Але перакананы, што 80% расейцаў зьяўляюцца ягонымі прыхільнікамі. Вось што ён заявіў карэспандэнту: "Для мяне воля славянскіх народаў зьяўляецца законам. Калі іх воля будзе пасляць мяне далёка за межы нашай дзяржавы, дык я пайду".

"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік
НАША НІВА
заснаваны ў 1906,
адноўлены ў 1991
заснавальнік і выдавец — Павал Жук
рэдактар — Сяргей Дубавец
адказны сакратар — Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар — Сяргей Харэўскі
навіны — Уладзімер Бараніч
рэдактар дадатку "Інфарматар" — Андрэй Лапцёнак
макет — Віктар Корзун
мантаж — Лявон Раманчык
набор — Тацяна Чуйвід
стыліст — Антон Кузьміч
карэктура — Сяргей Сматрычэнка
пры ўдзеле — Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі (тэл. 56-94-36) — Зьміцер Бартосік
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ
220123 Менск, а/с 71
Падпісны індэкс 63125
Тэл./факс 36-76-75

# КРАІНА

**"ВСЕХ ПОСАДИМ!"** З нагоды падзеяў 26 красавіка А.Лукашэнка правёў 30 красавіка закрытую нараду, на якой выказаў незадаволенасьць дзеяньнямі міліцыі і, у прыватнасьці, амону, маўляў, "здоровенные бугаи не смогли наломать шею крикливым мальчишкам"; калі міліцыя і далей будзе так несьці службу, дык падобныя маніфэстацыі ніколі ня скончацца. Лукашэнка жорстка крытыкаваў старшыню КГБ Мацкевіча і намесьніка міністра ўнутраных справаў Ерына, якіх назваў асабіста адказнымі за тое, што яны далі магчымасьць "убежать Позняку". Дасталося і генэральнаму пракурору Капітану, які, са словаў Лукашэнкі, амаль нічога не рабіў. Разьюшаны прэзыдэнт назваў генпракурора БНФаўскім стаўленікам.

Аднак большая частка нарады была прысьвечана заўтрашнім падзеям 1 траўня. Сілавым структурам быў дадзены загад хапаць усіх, хто зьявіцца на вуліцы зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, не дапускаць груповак, асабліва маладзёжных, на плошчы Якуба Коласа, — іх трэба перахопліваць і разганяць, а тых, хто будзе хоць трохі супраціўляцца, адразу весьці ў пастарунак. "И не бойтесь, что не хватит мест, — наказваў сілавікам прэзыдэнт, — всех посадим!" Міністру юстыцыі Сукалу Лукашэнка загадаў падрыхтаваць загад аб забароне дзейнасьці БНФ і БЗВ...

На заканчэньне ён даў загад Генпракурору ўзбудзіць крымінальную справу супраць дэпутатаў Карпенкі, Шушкевіча, Знаўца і Дабравольскага, а таксама падрыхтаваць неабходныя матэрыялы да сэсіі Вярхоўнага Савету, каб парлямэнтары далі згоду на крымінальную справу супраць сваіх калегаў.

**ПАКАРАНЬНІ.** "Радыёфакт" паведаміў пра лёс людзей, затрыманых падчас падзеяў 26 красавіка ў Менску. 35 чалавек засуджаныя на адміністратыўны арышт на 3-15 сутак, 14 аштрафаваныя на сумы ад 2 да 5 мінімальных заробкаў. 15 справаў усё яшчэ разглядаюцца. Затрыманыя патрабуюць выклікаць іх асабістых адвакатаў, а грамадзяне Украіны — перакладчыкаў.

**БНФ.** 2 траўня Міністэрства Юстыцыі вынесла пісьмовае папярэджаньне БНФ па выніках праверкі дзейнасьці гэтае арганізацыі. Праверкай выяўлена парушэньне пункту статута БНФ пра скліканьне Сойму не радзей чым раз на месяц. У віну БНФ ставіцца тое, што Сойм склікаўся ўсяго тры разы ў 1995 г. і адзін раз у 1996 г. Як бачым, галоўным парушэньнем БНФ зьяўляецца занадта малая палітычная актыўнасьць. Але, як заявіў адзін зь лідараў БНФ Вінцук Вячорка, Соймы праводзіліся рэгулярна 12 разоў на год. Таксама БНФ абвінавачваецца ў арганізацыі несанкцыянаванага шэсьця 26 красавіка. Гэта пакуль першае папярэджаньне. Паводле закону для забароны арганізацыі патрэбнае яшчэ адно.

**ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСІ.** 29 кастрычніка Канстытуцыйны Суд РБ вынес чарговую пастанову наконт парушэньня прэзыдэнтам Лукашэнкам Канстытуцыі краіны. Неканстытуцыйным прызнанае распараджэньне Лукашэнкі №259 РП ад 29 сьнежня 1995 г. У ім прэзыдэнт загадаў выконваць свае ўказы, якія Кастытуцыйны Суд прызнаў неправамоцнымі. Гэтыя ўказы тычыліся пытаньняў бюджэту краіны на 1995 г., упарадкаваньня льготаў асобных катэгорыяў грамадзянаў, рэгуля-

Працяг на старонцы 6

# ДАКУМЭНТЫ, ЯКІЯ СЬВЕДЧАЦЬ САМІ ЗА СЯБЕ

Напрыканцы 1990 году, калі крах і забарона "руководящей и направляющей" была не за гарою, Валожынскі райкам КПБ прапанаваў мне стаць рэдактарам-складальнікам гісторыка-дакумэнтальнай хронікі "Памяць" майго роднага раёну. Час спрыяў, каб задуманы том атрымаўся ня толькі важкі, але й праўдзівы. Адкрываліся архівы, спэцсховы. Вось тады і назьбіраліся дакумэнты, якія, на вялікі жаль, ужо сёньня ня будуць уключаныя ў падрыхтаванае выданьне зь вядомых прычынаў: галоўны гісторык Беларусі прапануе глядзець на мінуўшчыну нашай Бацькаўшчыны праз клясавыя акуляры імпэрскай ідэалёгіі.

Зрэшты, у рэчышчы былой гістарычнай навукі пісаліся ўсе агульныя "ваенныя" і партызанскія разьдзелы хронікі (аўтар іх пасля забароны КПСС узначаліў раённую структуру ПКБ). Чытаючы іх, складвалася ўражаньне, што ў 1941-1944 г. на Валожыншчыне толькі і ўзрываліся масты, гарэлі паліцэйскія пастарункі, нямецкія салдаты зьнішчаліся ўдзень і ўначы, а цывільнае насельніцва толькі й марыла пра тое, каб зьбегчы зь мястэчковых і вясковых хацінаў у Налібоцкую пушчу на змаганьне з агрэсарам. Між тым я рос пад аповеды маёй мамы і ведаю, што за ўсю вайну савецкія партызаны ані разу не падабраліся пад Ракаў, а навакольны люд, прыходзячы на ракаўскі кірмаш, расказваў жахлівыя эпізоды пра марадзёрства і бандытызм хвалёных змагароў.

Глухія пагудкі пра тое, што ў час апошняй вайны нашыя вёскі палілі ня толькі фашысты, але й партызаны, я чуў. А тут натрапіў на паказальны дакумэнт:

> "Штаб партизанской бригады им. СТАЛИНА. 22 Апреля 1943 г. №125/224.
>
> Командиру партизанского отряда им. Суворова.
>
> По имеющимся у меня сведениям, как будто бы Вы отправили за убийства партизан сжечь деревню, что пока запрещаю. Сообщите в действительности вышеизложенного завтра 23.4.43 года.
>
> Командир бригады Лейтенант /Гулевич/ (подпісу няма)
>
> Начальник штаба бригады Ст. лейтенант /Карпов/ (подпіс).

*НАРБ, ф.3603, воп.1, спр.27, арк.289.*

Гэтае "пока" гучыць зламысна і паказальна. Значыць, у прынцыпе такое магчыма. Такое ўжо здаралася. Наагул, архіўныя матэрыялы прамаўляюць самі за сябе. Іх пісалі не фашысцкія падгалоскі, а пераважна камандзіры савецкай партызанкі.

Напрыканцы зазначу, што ў шырокім архіўным росшуку мне дапамагалі дырэктар Сівіцкай школы Гарбачэўскі і тагачасны загадчык агульнага аддзелу Валожынскага райвыканкаму Віктар Гардынец.

Язэп Янушкевіч




*Берасьце, 1942 год. З архіву Л. Віткоўскага.*

# ЭПІЗОДЫ ВАЙНЫ

***Да ўгодкаў заканчэньня II-й сусьветнай вайны рэдакцыя "НН" друкуе ваенныя дакумэнты. Наўмысна гэтыя матэрыялы не адбіраліся. Архіўны блёк утварыўся мэтадам выключэньняў — дакумэнты не былі прынятыя для друку ў афіцыйным выданьні. Такім чынам, гэты блёк узьнік спантанна, сам. Мы яго толькі рэпрадукуем.***

***Вядома, гэтыя матэрыялы не даюць поўнага інтэгральнага ўяўленьня пра падзеі Другой сусьветнай вайны ў Беларусі. Але яны робяць акцэнт на сутнасных рэчах — на глыбіні трагедыі нашай краіны. Тут ужо абсалютна кантрасныя вызначэньні героя й ворага не спрацоўваюць. Там, дзе вайна, зьнікае высакародзтва.***

***Арыгіналы гэтых матэрыялаў захоўваюцца ў Нацыянальным Архіве Рэспублікі Беларусі і друкуюцца бязь зьменаў у перакладзе з расейскай мовы. Падрыхтаваў публікацыю Язэп Янушкевіч.***

Начальніку Разьведвальна-Апэратыўнай групы пры Валожынскім падпольным РК КП(б)Б

АКТ

ад 29.III.1944 году

Я, камандзір спэцгрупы атраду імя Берыя, Карукін Аляксей Андрэевіч, у асобе партызана Бузіна Г.В. склаў гэты акт у наступным: 29 лютага месяца я выяжджаў на гасапэрацыю, сустрэў на бальшаку Пяршаі-Валожына грамадзянаў, якія везьлі сечку і дровы. Я вырашыў затрымаць людзей і спытаць куды яны едуць, то гр. Івашка Алімпія Ўладыславаўна, 1924 г. нар. паходзіць з грамадзянаў в. Лепіцы (Лапінцы) Пяршайскай Гміны Валожынскага раёну, растлумачыла мне, што яна ўцякае ў Валожын ад бандытаў, у якой у Валожыне ўжо знаходзіцца карова, а таму, на падставе вышэйвыкладзенага грамадзянка Івашка сваім злачынствам залугоўвае расстрэлу за дыскрэдытацыю партызанскага руху. Гэты акт выкананы. Грамадзянка Івашка Алімпія Ўладыславаўна расстраляная, што і вырашылі запісаць у гэты акт.

Гэты акт мне зачытаны, запісана з маіх словаў і мною зразумета.

Камандзір спэцгрупы А.Карукін /Карукін/
Партызан /Бузінін/
Абвінавачаная /Івашка/

*НАРБ, ф.3504, воп.1, спр.10, арк.55.*

Копія

ЗАГАД

па партызанскім атрадзе імя СУВОРАВА, Сталінскай брыгады

пушча Н-ская, N... 26-га сьнежня 1943 г.

Зьмест: Аб катэгарычнай забароне п'янства, дэбошаў і нядобрасумленных адносінаў да мірнага насельніцтва.

У грозную гадзіну для РАДЗІМЫ, калі нямецкія варвары насуперак усім міжнародным правілам і дамовам, заключаным з савецкім урадам, вераломна напалі на нашу зямлю, калі Красная армія вымушана была ўступаць кілямэтры сьвяшчэннай рускай зямлі ворагу, ПАРТЫЯ, РАДЗІМА, АСАБІСТА ТАВ. СТАЛІН кінулі заклік да савецкіх патрыётаў, якія знаходзяцца ў тыле ворага, аб разьвіцьці партызанскага руху, аб нанясеньні стратаў ворагу ў жывой сіле і тэхніцы, усімі сродкамі і здольнасьцямі, да якіх толькі схільны чалавечы розум.

Гэты заклік ахапіў ня толькі перадавыя слаі насельніцтва ў тыле ворага, але і з асобных, разрозьненых партызанскіх групаў, створана вялізная колькасьць партызанскіх атрадаў, брыгадаў і злучэньняў, якія пацягнулі за сабой усю асноўную масу насельніцтва на заваяванай ворагам тэрыторыі, тым самым ператварыўшы партызанскі рух, асабліва на Беларусі, у масавы, усенародны рух, які падняўся з зброяй у руках да помсты нямецкім акупантам за зганьбаваную Радзіму і свой народ.

Знаходзячыся ў тыле, савецкія патрыёты атрымалі магчымасьць наносіць страты ворагу дзякуючы адзінству волі і памкненьняў шырокіх слаёў народных масаў. Насельніцтва ўзброіла партызанскія атрады, абмундзіроўвае іх, забясьпечвае харчаваньнем, дапамагае знаходзіць узрыўчатку і боепрыпасы і галоўнае лічыць нас абаронцамі духоўных, маральных і матэрыяльных сілаў, у нас бачаць яны сваю абарону ад нямецкіх рабаўнічых ордаў.

Гэта галоўнае і забылі асобныя кіраўнікі і масы партызанаў. Забыўшы пра тое, што калісьці гэтая самая простая жанчына ці мужчына, рызыкуючы сваім уласным жыцьцём, падносіла нам кавалак хлеба ці вады, хавала нас ад немцаў, даючы нам часовы прыстанак, цяпер жа сваімі паводзінамі ня рэдка тэрарызуем да такой ступені, што яны павінны хавацца больш чым ад немцаў.

Дагэтуль, асобныя камандзіры і партызаны не зразумелі сваёй сілы як народных мсьціўцаў, што сіла наша і заключаецца ў масавай падтрымцы нас насельніцтвам, а пачынаем злоўжываць іх даверам да нас, і сваімі няправільнымі адносінамі робім больш ворагаў.

Практыка паказала, што агульным ворагам, карэнным ворагам бясчынстваў, якія творацца ў партызанскім руху, ёсьць алькагалізм, бо ўсе факты варожых адносінаў да насельніцтва бываюць толькі пасьля таго, як чалавек напіваецца. Мала таго, што часам асобныя таварышы па-нялюдзку зьдзекуюцца з насельніцтва, разам з гэтым мы губляем шмат сваіх таварышаў.

Так, у лістападзе месяцы, выконваючы баявое заданьне з групай у раёне Ракава, тав. Ціханаў згубіў партызана Зьміеўскага толькі таму, што дапушчана была п'янка і адсутнасьць паста.

Таксама ў лістападзе, група падрыўнікоў на чале з тав. ВОЎЧАК, выконваючы баявое заданьне ў Юрацкім раёне, на Лежнеўскіх хутарах, дапусьцілі п'янства і адсутнасьць паста, у выніку загінулі Воўчак і Арыка В.

У сьнежні месяцы, Камандзірам узводу Ціханавым была выканана прадуктовая апэрацыя і потым ужылі не па прызначэньні і большай часткай прапілі, давялося паўторна пасылаць групу, у выніку загінуў партызан камандзір Міхайлаў Я.

У гэтым самым месяцы, у Радашкаўскім раёне, у в. Зарэчча партызан Церычаў напіўся да страты прытомнасьці, падняў страляніну ў хаце, перапалохаў дзіця, якое ў выніку памерла.

Партызан Копач П. выконваючы службовыя абавязкі, напіўся п'яны і разьбіў вакно селяніну ў в. Харужы толькі таму, што той хворы і ня змог у тую ж сэкунду адчыніць яму дзьверы.

Партызан Бурак, будучы пасланы нач. разьведкі тав. Няфёдавым на выкананьне баявой задачы, напіўся і праспаў 4 гадзіны на хутары, тым самым прымусіў усю разьведку шукаць яго.

У сьнежні месяцы, у в. Яўневічы, партызанам Паграбняк быў зьбіты солтыс гэтай самай вёскі і шомпалам разьбіў яму галаву, толькі за тое, што быццам бы ён у Ракаве атрымаў 5 кг. солі і цукру.

У іншым месцы, партызан Паневін забраў у беднай жанчыны пуд мукі і адносіць на наступны хутар, прадае на гарэлку.

У трэцяй роце, партызаны Шамай і Комса С., карыстаючыся момантам адсутнасьці старэйшых начальнікаў, пры вяртаньні з харч. апэрацыі хаваюць мяшок мукі для таго, каб потым прадаць на гарэлку.

У першай роце, ва ўзводзе Хахлачова, чамусьці прынялі за правіла мяняць харчаваньне і вопратку на гарэлку. Партызан Крукаў і Раманчык Л. прапілі скрутак палатна, які быў падрыхтаваны для абіўкі зямлянак.

У другой роце, вяртаючыся з харчовай апэрацыі, у в. Пільніцы партызаны выменьвалі на муку гарэлку ў сялянаў і не выпадкова, праяжджаючы Пільніцу, згадваецца звычайны базар, калі з двара выбягае жанчына і пытаецца: "Ці няма мукі ці мяса на гарэлку, бо ж сьвята падыходзіць (раство)" і інш.

Можна было б прывесьці яшчэ сотні варожых партызанскаму руху фактаў, якія яшчэ чамусьці зьяўляюцца цярпімымі для камандзіраў і начальнікаў. Можна было б прывесьці яшчэ масу фактаў, калі за гэты ж паўлітра ставяць да сьценкі селяніна, страляюць над галавой, альбо задзяваюць пятлю на галаву імкнучыся падвесіць, зьбіваюць і нявечаць ні ў чым не вінаватых людзей, забіраюць абсалютна непатрэбныя рэчы, якія потым аддаюць на гарэлку, ці нясуць распусным жанчынам. Многія партызаны, а ў асобных выпадках і камандзіры абзавяліся на раёне прытонамі, куды сплаўляюць і хлеб і вопратку, узятыя ад іншых сялянаў, распальваючы тым самым нянавісьць сялянаў паміж сабою.

Зыходзячы з пададзенага вышэй ЗАГАДВАЮ:

1. Ужываньне сьпіртных напояў на раёне, а роўна і ў разьмяшчэньні лягера катэгарычна ЗАБАРАНЯЮ.

2. Патрабую ад камандзіраў усіх ступеняў, пры зьяўленьні асобаў у п'яным стане накладваць пакараньне ўсёй сваёй уладай, пра што неадкладна даносіць мне.

3. Мерай выхаваўчага парадку ўстанаўліваю, пры паўтарэньні падобных зьяваў гэтым жа падначаленым буду накладваць пакараньне сам усімі сваімі правамі.

Калі ж і гэта не дапаможа і тая ж асоба ўчыніць трэці раз гэты самы праступак, будуць ужытыя вышэйшыя меры пакараньня РАССТРЭЛ.

4. Катэгарычна (!) патрабую ад камандзіраў і начальнікаў усіх ступеняў і ўсяго асабовага складу добрасумленных адносінаў да мірнага насельніцтва. Пры ўстанаўленьні фактаў незаконнага звароту да насельніцтва, а таксама і забраньне рэчаў — буду расцэньваць як варожыя дзеяньні, накіраваныя супраць партызанскага руху і РАДЗІМЫ і буду прымаць меры як да ворагаў народу.

5. Надалей — патрабую ад усяго асабовага складу абмундзіроўвацца і набываць неабходныя прадметы для атрада ці свайго падразьдзяленьня — толькі зь ведамам камандаваньня роты.

6. Абавязваю кожнага камандзіра і начальніка на месцы ухіляць усе недахопы ў іншых падразьдзяленьнях атраду, пра што з прыбыцьцём у лягер неадкладна дакладваць Мне.

7. За сыстэматычную п'янку, што пацягнула за сабою ахвяры з боку партызанаў, за бязмэтную страляніну і грубыя паводзіны кам. узводу 4-ай роты лейтэнанта Ціханава ад займанай пасады адхіляю і пераводжу ў радавыя 2-ой роты.

Камандзірам узводу прызначаю камандзіра аддзяленьня той жа роты старэйшага сяржанта Шульгу В.М.

Камандзірам аддзяленьня прызначаю партызана той жа роты тав. Юшыка Аляксея.

8. За дапушчэньне п'янак, за нізкую патрабавальнасьць да сябе і падначаленых, у выніку падначаленыя не выканалі загадаў — адхіляю ад займанай пасады начальніка разьведкі т. НЯФЁДАВА. Начальнікам разьведкі атраду прызначаю партызана 2-й роты тав. ІВАХІНА І.С.

Партызана Няфёдава пераводжу ў радавыя першай роты.

9. За дапушчэньне п'янак, за нядобрасумленнае выкананьне службовых абавязкаў, кам. узводу 3-яй роты лейтэнанта САМОЙЛЕНКА І.Н. адхіляю ад займанай пасады і пераводжу ў радавыя 2-й роты.

Камандзірам узводу 3-яй роты прызначаю старэйшага сяржанта т. Голубева В.Н.

Камандзірам аддзяленьня той самай роты прызначаю партызана тав. ІЗОТАВА Н.

10. За сыстэматычную п'янку, што адбывалася нярэдка разам з дэбошам у населеных пунктах тт. КОПАЧ П. і БУРАК адклікаю з разьведкі і пераводжу ў 4-ую роту радавымі партызанамі.

Загад давесьці да ўсяго асабовага складу.

Камандзір атраду імя СУВОРАВА
маёр /СУРКОЎ; подпісу няма/.
Камісар атраду імя СУВОРАВА
маёр /подпіс А.КЛЯЎКО/
Начальнік штабу атраду імя СУВОРАВА
капітан /подпіс СУПРУНОЎ/.

*НАРБ, ф.3603, воп.1, спр.27, арк.416-417.*

Зусім сакрэтна

ЗАГАД

Упаўнаважанага Цэнтральнага штабу партызанскага руху пры Стаўцы Вярхоўнага галоўнакамандаваньня і ЦК КПБ па Баранавіцкай вобласьці.

№0014 ад 6-га лютага 1944 году

Нягледзячы на вялізную працу, якую праводзяць атрады і брыгады па дывэрсіях на чыгунках маюць месца выпадкі, калі асобныя нядобрасумленныя падрыўнікі, нават і групы ў цэлым, займаюцца ашуканствам, даюць ілжывыя зьвесткі пра неўзарваныя імі варожыя эшалёны, складаючы на гэта фіктыўныя дакумэнты, якія іншы раз прымаюцца камандаваньнем атрадаў "за чыстую манэту". Гэтыя рвачы з шыльдай падрыўніка, легкадумна ставяцца да нагэтулькі сур'ёзнай дзяржаўнай справы, ставяць перад сабой за мэту атрымваньне ўрадавых узнагародаў, шляхам падману і тым самым учыняюць цяжкое злачынства перад урадам, партыяй і Радзімай на глебе асабістых шкурніцкіх інтарэсаў.

Праверкай устаноўленыя наступныя факты:

1. 6-га сьнежня 1943 году група падрыўнікоў з атраду імя Кузьняцова на чале з камандзірам Харацьянам, пры ўдзеле праваднікa Башко (жыхар в. Пранчайкаво Гарадоцкай воласьці) паставіла міну на чыг. перагоне Маладэчына-Гарodзькі, паміж в. Язаўцы-Рагозы, якая была зьнятая нямецкай аховай 7-га сьнежня. Аб гэтым Башко на наступны дзень паведаміў Харацьяну і палітруку падрыўной роты Сіманцаву. Аднак апошнія пачалі вымагаць у Башко фальшывую даведку аб падрыве варожага эшалёну, абяцаючы яму ўзнагароджаньне ордэнам Леніна з прыходам Краснай Арміі, і пасьля працяглага пераконваньня і аддачы яму кабана была атрыманая жаданая даведка, на падставе якой быў складзены акт: "пашкоджаны паравоз і разьбіта 8 вагонаў з харчамі". Гэты акт паступіў у штаб брыгады імя Чкалава і быў зафіксаваны ў ліку сапраўдных актаў. За гэта Сіманцаў пасьля 10-ці дзённага арышту адхілены ад пасады палітрука, а Харацьян, які найбольш вызначыўся ў вымагальніцтве фальшывай даведкі, падлягаў расстрэлу...

3. 30 сьнежня 1943 году падрыўной групай Куніцкага (расстраляны за марадзёрства) сумесна з разьведгрупай Ларына з атраду "Савецкая Беларусь" была пастаўлена міна на чыг. перагоне паміж в. Вайганы-Ляхаўшчына, якая была зьнятая нямецкай аховай. Аднак названымі групамі быў складзены акт "узарваны эшалён — разьбіты паравоз і 4 вагоны з мукой".

Гэты факт таксама прыняты камандаваньнем.

4. У апошнія даты сьнежня месяца мінулага году падрыўныя групы Сальчанкі і Лісяка ў нецьвярозым стане ставілі міну на чыг. У гэты час паміж названымі камандзірамі завязалася спрэчка. Немцы іх заўважылі, абстралялі і міна была зьнятая.

ЗАГАДВАЮ:

1. Камандзірам брыгадаў і атрадаў праз спэц. разьведгрупы і ўпаўн. АА атрадаў і брыгадаў устанавіць строгі кантроль сапраўднасьці данясеньняў ад выканаўцаў дывэрсійных актаў. Людзей, якія займаюцца падманам — сувора караць.

2. З гэтым загадам азнаёміць увесь каманднa-палітычны склад атрадаў, а з партызанамі правесьці сходы і гутаркі.

3. Пра кожны факт падману, дачы ілжывых зьвестак і мерах, прынятых з боку камандаваньня паведаміць мне.

Упаўнаважаны Цэнтральнага Штабу
Партызанскага Руху пры Стаўцы
Вярхоўнага Галоўнакамандаваньня і
ЦК КП(б)Б па Баранавіцкай Вобласьці
Генэрал-Маёр /ПЛАТОН/
Копія сапраўдная /Начальнік Штабу Брыгады
Падпалкоўнік Ціхаміраў /КАРПАЎ/

*НАРБ, ф.3603, воп.1, спр.27, арк.23-23 адв.*

Зацьвярджаю: Начальнік АА Брыгады імя Чкалава /Зухба/

АКТ

24-га лістапада 1943 г. разьведгрупамі Койданаўскай, Стаўпецкай быў зьнішчаны нямецкі агент Кунцэвіч Міхаіл, жыхар в. Талканы Івянецкай воласьці таго ж раёну. Ліквідацыя вышэйзгаданага была праведзеная па рашэньні Койданаўскай, Стаўпецкай і спэцгрупы па зьняцьці паказаньня зь ніжэйзгаданых сьведкаў:

1. Сакалоўскага Вітаўта;
2. Навіцкай Валянціны Міхайлаўнай;
3. Гнаінскай Ганны;
4. Брычкоўскай Марыі;
5. Лямбовіча Станіслава;
6. Пятруцкага Канстанціна.

Зь іх першыя пражываюць у вёсцы Талканы, 2 апошніх з польскіх легіёнаў.

Паказаньнямі сьведкаў было ўстаноўлена:

1. Частыя наведваньні Кунцэвічам М. нямецкай жандармэрыі;
2. Пранікненьне гэтага апошняга нават за рысу ўмацаванага лягера каля Плябані і касьцёла.
3. Факты спыненьня нямецкіх машынаў недалёка ад ягонага дому і размова Кунцэвіча зь немцамі, што знаходзіліся ў іх.
4. Выкрыцьцё ім партызанскіх днёвак.

Акт падпісалі: /Устабашыдзі/, /Карукін/, /Сьвентаржэцкі/, /Максімаў/.

*НАРБ, ф.3504, воп.1, адз. зах.10а, арк.46.*

Акт

ад 19 лютага 1944 году

Апэратыўна-разьведвальнай групай пры Аблцэнтры, у асобе камгрупы Карукіна, Максімава, Матыльскага і са словаў гр. Бяроўскага хутара Шаблоўскага ўстаноўлена, што гр. Ерушэвіч Стась Мацьвеевіч, год нараджэньня 1903, каталік, пражывае на Клерымонтаўскіх хутарах Пяршайскай гміны, Валожынскага раёну, займаўся асьведамленьнем Валожынскага пастарунку аб партызанскім руху. Па ягоным указаньні немцы і паліцыя часта выходзілі на засаду ў ягоны раён. А таму, на падставе вышэйпададзенага — гр. Ерушэвіча С.М. расстралялі, як сацыяльна-небясьпечнага для партызанскага руху, — аб чым і складзены гэты акт.

Камандзір групы /Карукін/
/Партызаны/ /Максімаў/
/Матыльскі/

*НАРБ. Ф.3504, воп.1, адз. зах.10, арк.54.*

***[У гэты ж дзень, як сьведчыць ідэнтычны дакумэнт на тым самым аркушы, Карукін (на загад начальніка разьведвальна-апэратыўнай групы т. Зухбы) расстраляў солтыса в. Хоўхлы Палачанскай гміны Адольфа Антонавіча Маліцкага, 1911 году нараджэньня.]***

Камандзіру атрада імя Суворава
тав. Рыжкавану

Прапаную прыцягнуць да адказнасьці групу падрыўнікоў, старэйшы групы тав. Ліхтаровіч Леанард Георгіевіч, якія выяжджаючы на баявыя апэрацыі ў вёску Ягодня, займаюцца сыстэматычнай п'янкай, стралянінай па вокнах і груба адносяцца з насельніцтвам, доўгі час бяз справы праседжваюць у вёсцы. Напр.: я, будучы ў вёсцы Ягодня сустрэўся з гэтай жа групай, якая спусьціла пад адхон 1-га траўня варожы эшалён і сядзела ў вёсцы бяз справы 10 дзён. Другі выпадак: я, таксама будучы ў вёсцы Ягодня, 4 чэрвеня г/г зноў сустрэў гэтую ж групу, якая таксама паводзіла сябе вельмі брыдка, былі зусім п'яныя, лаяліся, хуліганілі, прыйшлі ноччу на кватэру Калевіч Аляксандру, дзе начаваў камісар атраду імя Кутузава, пачалі яго цягнуць з пасьцелі называючы: "Вы дармаеды, нічога ня робіце, а толькі еьдзіце, займаецеся праверкай і г.д."

Прапаную вышэйназваную групу прыцягнуць да адказнасьці.

Аб выніках дапажыце Абкаму КП(б)Б.
Заг. Арг. Інструктарскім Аддзелам /
Баранавіцкага Падпольнага Рбкаму КП(б)Б В.Герасімовіч

*НАРБ, ф.3603, воп. 1, спр. 27, арк. 31.*

*Натальля Бабіна*
*Андрэй Дынько*

## LONG-LIVE BIELARUS!

— Андрэй, трэба эміграваць. Ці чуў, як у Гомельскай вобласьці "прападаюць пладароднейшыя землі", радыяцыя адступае, як хораша вучыцца дзецям ў новай школе, пабудаванай за 20 кілямэтраў ад адселенай зоны, як на рагу Карастаянавай і Арлоўскай раптам зьявілася нейкае "сьвятое для ўсіх месца"?..

— Што ж, можна. У цяперашнім інфармацыйным сьвеце можна заставацца беларусам нават у Сібіры. Мамардашвілі пісаў, што раней трэ' было жыць у Грузіі, каб заставацца грузінскім інтэлектуалам, цяпер жа, дзякуй Богу, кампутары, спадарожнікі і розная іншая халера, а таму Руставэлі сёньня мог бы жыць і ў Парыжы... Я, бадай, эміграваў бы. Там піва смачнае.

— Нацыя жыве на каленах. Глядзі, яны друкуюць віншаваньне Яфрэму Сакалову. Відны дзеяч... Ты ж памятаеш, як еў шчаўе 1 траўня 1986 году?

— Але! І віншаваньне стаіць у першым пасьлячарнобыльскім нумары. Але, па-першае, на каленах стаіць ня нацыя, а па-другое, на каленах не жывуць, а паміраюць. Наш лёзунг сёньня: лепш жыць стоячы, чым паміраць на каленах, бо бясстрашныя выжывуць, а вось талерантных магіла выпрастае на "пладароднейшых землях"...

— Не, нікуды не паеду! Вам сувораўцы махалі з вокнаў вучэльні, калі вы йшлі ў калёне на мітынгу?

— І салдаты з машынаў махалі. Зрэшты, можна ехаць, абы там праца была. Ведаеш, па-мойму, галоўнае ўжо зроблена, красавік-96 паказаў, што беларуская нацыя сфармавалася. У мяне дагэтуль былі сумневы: а ці зможам, а ці не? Я табе скажу: Беларусь — гэта поўнач маёй душы, а Ўкраіна — поўдзень. Я надта баяўся, што поўнач так і застанецца спаралізаванай, але цяпер я амаль упэўнены: аднаўленьне здаровых рэфлексаў адбылося. А інстынктам падказваць ужо ня трэба, яны ажывуць самі сабою. Скончыўся пэрыяд, які пачаўся ў 1906 годзе, скончыўся файна й гучна.

— Не суроч. Аднак дзіўна: мы можам паехаць хоць у Амэрыку, хоць у Парагвай, а вось раку нашай душы ня зможам пабачыць ніколі. Буг так і застанецца "за паласою": выселілі ў сорак чацьвертым прыбускія вёскі, паставілі калючы дрот — і гэта ўжо навек. Так і застануцца нашыя душы ненатоленыя, нават калі пазбавяцца паралюшу.

— Дакрануцца да вады можна і з польскага боку Бугу.

— Дакрануцца — так. Дакрануцца і вярнуцца. Нават калі паддацца твайму аптымізму і паверыць у перамогу нацыянальнага, то ня трэба забываць — людзі кшталту нас з табою ніколі не бываюць шчасьлівыя. І тое, што эпоха хлусьні і агрэсіўнага невуцтва мінецца, ня стане падставаю для спакою... альбо стане? Ці адкрыюць беларусы для нас з табой дарогу да Буга —вось што я хачу ведаць.

— Ведаеш, беларусы будуць асаблівай, прыемнай нацыяй, бо ўсе нацыі стварала буржуазія, а беларускую — інтэлігенцыя. Long-live Bielarus! — як перадавала наш вокліч "Guardian weekly" ад 11 красавіка.

— Зноў, значыць, пайшлі не такім шляхам, як астатні сьвет?! Во халера! А з другога боку, добра. Усё добра. А лепш за ўсё ведаеш што? У лесе цяпер стаіць ціхае-ціхае пашчоўкваньне —гэта расчыняюцца на сонцы шышкі на хвоях. Насеньне ляціць на зямлю

# Салідарнасьць

***26 красавіка ў Менску міліцыянты пасадзілі за краты вядомых дзеячоў беларускай культуры Юрыя Хадыку, Вінцука Вячорку, Лявона Баршчэўскага, Алеся Жлутку, Язэпа Янушкевіча, жорстка зьбілі Алеся Марачкіна. У ізалятары КГБ і МУС патрапілі журналісты, літаратары, мастакі, навукоўцы, студэнты. Новая для Беларусі рэальнасьць — адкрытыя рэпрэсіі супраць інтэлігенцыі — зьмяняе сытуацыю ў самой нацыянальнай культуры, дзе працэс абнаўленьня, пераацэнкі каштоўнасьцяў, рэарганізацыі суполак і саюзаў відавочна адстае ад жыцьця.***

***Чарнобыльскі Шлях, забаронены рэжымам паход нацыянальнага смутку і яднаньня, стаў іспытам беларускай інтэлігенцыі — на салідарнасьць. У зьвязку з гэтым карэспандэнт "Нашай Нівы" Алег Дашкевіч зьвярнуўся да прадстаўнікоў розных культурных арганізацыяў, творчых саюзаў і пэрыёдыкаў з просьбай адказаць на наступнае пытаньне: "Як Вы разумееце салідарнасьць людзей культуры сёньня, калі Вашыя калегі сядзяць за кратамі разам з крымінальнікамі?" Адказы атрымаліся розныя. Наколькі яны адэкватныя таму, што здарылася, няхай вырашаць нашыя чытачы.***

### ЯК ДАПАМАГЧЫ?

*Валянцін Акудовіч, філёзаф, часопіс "Крыніца"*



Ужо цэлы месяц я не магу стаць ляўрэатам у Беларускім Гуманітарным Цэнтры, дзе мяне вылучылі ў літаратурнай намінацыі. Баршчэўскага то ў суд, то пасадзяць, Вячорку то ў суд, то пасадзяць. І я страшэнна пакрыўджаны на ўлады...

Салідарнасьць на духоўным, інтэлектуальным узроўні ёсьць, паколькі робім агульную справу. Наконт практычнай дапамогі... Як могуць літаратары, дзеячы культуры дапамагчы? Ліст некуды даслаць, паперу падпісаць, максымум — выйсьці на пікет, ці што? Калі паўстане пытаньне матэрыяльнае — прысуд будзе — ну, скінуцца...

### Я МАГЛА Б ЗАНЕСЬЦІ ПЕРАДАЧУ

*Раіса Баравікова, паэтка*

Я не палітык, а толькі жанчына і паэтка, якая піша пра каханьне. Што тычыцца салідарнасьці, то яна ёсьць заўсёды. У рабочых свая, у інтэлігенцыі свая. У гэты момант я проста магла б занесьці перадачу. Але думаю, што ў прынцыпе гэты дзень ня трэба было ўзводзіць да палітычных акцыяў, бо гэта ня той дзень.

У нас у Беларусі з даўніх часоў адбываецца непаразуменьне паміж інтэлігенцыяй і ўладамі. І тое, чым можа ганарыцца нацыя, заўсёды апыналася на задворках. У дадзеным выпадку я як жанчына, як маці, як паэтка не садзіла б людзей за краты, а села б зь імі за адзін стол і сказала: мы ўсе беларусы, давайце мудра, з толкам пагаворым і вырашым, як нам жыць далей. Я хацела б сустрэцца з нашым прэзыдэнтам і ў нейкай вельмі шчырай размове проста пагаварыць пра літаратуру, проста пагаварыць.

### ВЕДАЮ ТОЛЬКІ З ЧУТАК

*Генадзь Буралкін, старшыня Саюзу Мастакоў*

На жаль, у той дзень я ня быў у Менску. Мы адкрывалі ў Бэрліне выставу да 10-годзьдзя Чарнобыля. І я пра Чарнобыльскі Шлях ведаю толькі з чутак. На мой погляд, улады павінны былі паставіцца бяз жорсткасьці. Трэба было даць людзям выйсьці і адзначыць гэты наш Шлях спакойна. Тое, што 200 чалавек арыштавана, — гэта не на карысьць нашай дзяржаве. Мы, дзеячы культуры, павінны тыя крохі дэмакратыі, якія ўжо ёсьць, зьберагчы, каб яны не губляліся. Трэба, каб наша дзяржава была дэмакратычная, каб кожны меў права выказаць тое, што ён думае. Дух свабоды, які мы адчулі, нельга зноў заганяць у клетку.

У нас у Беларусі працуе Канфэдэрацыя Творчых Саюзаў і культурных фондаў. 30-31 траўня ў Менску пройдзе вялікі Кангрэс дзеячоў культуры краінаў СНГ. На гэтым Кангрэсе, натуральна, будуць прынятыя звароты і ўвогуле разгледжаны стан нашай культуры. Мы апынуліся ў вельмі жорсткіх умовах. Культура ня мае дзяржаўнай падтрымкі на тым узроўні, які мусіць быць.

***"НН": Ці будуць на Кангрэсе ставіцца пытаньні наконт падзеяў 26 красавіка і рэпрэсіяў у дачыненьні да дзеячоў культуры?***

Г.Б.: Наконт гэтага мне цяжка сказаць, бо парадак дня рыхтуецца пры Савеце культуры пры кіраўніках урадаў СНГ і мы пакуль што не атрымалі гэты парадак.

### ПРА САЛІДАРНАСЬЦЬ МОЖНА ТОЛЬКІ МАРЫЦЬ

*Васіль Быкаў, народны пісьменьнік*



Пажадана, вядома, каб у такой сытуацыі творчыя саюзы праявілі пэўную дэмакратычную салідарнасьць. На жаль, пра гэта можна толькі марыць. Такога ня здарылася і, відаць, ня здарыцца. Бо творчыя саюзы дагэтуль зьяўляюцца фармаваньнем улады і аддана служаць ёй. Асабліва гэта датычыць кіраўніцтва творчых саюзаў — амаль што ўсіх. У гэтым сэнсе можна толькі пазайздросьціць уладзе, якая ў самым пачатку сваёй дыктатуры ўжо паклапацілася ў межах пэўнай кадравай палітыкі, каб творчыя саюзы ўзначалілі яе людзі. Таму чакаць ад творчых саюзаў якога-небудзь удзелу ў дэмакратычным пераўтварэньні Беларусі, нават у супраціўленьні наступу таталітарызму, ня трэба. Гэтага ня будзе. У лепшым выпадку творчыя саюзы будуць захоўваць нэўтралітэт. І гэта ўжо добра. У той час як, натуральна, некаторая іх частка, найбольш пракамуністычная, будзе ўдзельнічаць у гэтай агалцелай барацьбе зь беларускай нацыянальнай дэмакратыяй.

### Я ВЫЙДУ РАЗАМ З УСІМІ

*Леанід Галубовіч, паэт, часопіс "Крыніца"*



1 траўня — Дзень салідарнасьці. Я выйду на плошчу Якуба Коласа і разам з Народным Фронтам і з тымі, хто змагаецца за адраджэньне нацыі, буду выказваць свае думкі і да тых людзей, якія пасаджаныя. Вось будзе мой Дзень салідарнасьці.

### ТОЛЬКІ – НЕ БЯЗЬДЗЕЙНАСЬЦЬ!

*Мікола Гіль, галоўны рэдактар тыднёвіка "Літаратура і Мастацтва"*



26 красавіка я разам з жонкаю ішоў у калёне Чарнобыльскага Шляху ад плошчы Якуба Коласа да Палаца спорту. Гэта ўжо адказ на вашае пытаньне. А праз тры дні, 30 красавіка, па дарозе на прэс-канфэрэнцыю ў штаб-кватэру БНФ да нас у рэдакцыю зайшоў Язэп Янушкевіч, толькі што выпушчаны з прыёмніка-разьмеркавальніка на вуліцы Прылуцкай, і я, вітаючы яго, з радасьцю, з пашанаю, па-сяброўску пацісную яго мужную руку...

Салідарнасьць — слова важкае і, самае галоўнае, дзейснае. І ў зьвязку з гэтым я прыгадваю адно разважаньне аб культуры. Культура, маўляў, гэта ня словы, няхай сабе нават самыя высокія, а справы; дзейнасьць, скіраваная на пошук ісьціны, дабра, прыгажосьці. Культура — гэта гуманнасьць, адносіны да чалавека як да мэты, а не як да сродку. Галоўнае ў культуры — радзіма, родны народ... На жаль, у нас, мусіць, сапраўды мала сапраўдных носьбітаў культуры — інтэлігентаў. Больш —"сялянаінтэлігентаў", як піша Алесь Чобат у апошнім нумары "ЛіМа", людзей, далекаватых ад культуры, ад разуменьня таго, што культура, паўтару, гэта дзейнасьць, якая носіць характар творчасьці. Да крыўды, да болю ў нас мала нацыянальна сьвядомых інтэлігентаў. Гэта бяда, трагедыя наша. Ці не таму і праяваў салідарнасьці, пра якую вы пытаецеся, ня надта відаць. Бо салідарнасьць — гэта таксама перш за ўсё дзейнасьць. Якая? Гэта залежыць ад узросту, характару, тэмпэрамэнту і іншых якасьцяў кожнага з нас. Толькі — не бязьдзейнасьць!..

### Я МОГ БЫ СЯДЗЕЦЬ РАЗАМ ЗЬ ІМІ

*Аляксей Дудараў, старшыня Саюзу Тэатральных Дзеячоў*



Самае першае, што я хачу сказаць, што я зь імі салідарны і, на вялікі жаль, у гэты час быў на фэстывалі ў Гомелі, а калі б быў у Менску, я быў бы на плошчы і магчыма таксама разам зь імі сядзеў. Няхай трымаюцца, таму што змрочныя часы заўсёды сканчаюцца.

Дзеячы культуры мусяць усё ж заклікаць улады і людзей не да міру (таму што мір наўрад ці атрымаецца), а да таго, каб усё гэта адбылося цывілізаваным шляхам, каб, не давядзі Бог, Беларусь не ўвайшла ў шэраг тых сумнавядомых рэспублік, у якіх пралівалася кроў. А ўладам павінны ўвесь час пры магчымасьці даваць зразумець, дзе знаходзіцца розум і культура. А яна акурат знаходзілася каля Акадэміі Навук. Дарэчы, вельмі сымптаматычна і сымбалічна.

### Я – ЗА ІХ

**Васіль Зуёнак,** *старшыня Саюзу Пісьменьнікаў*



Я лічу, што такія людзі як прафэсары, дактары навук павінны сядзець у навуковай лябараторыі і працаваць на інтэлект нацыі, для ўзвышэньня Беларусі, а не сядзець за кратамі. Салідарнасьць? Я за іх. За тое, каб яны вольна дыхалі, вольна тварылі ў вольнай Беларусі.

У Саюза Пісьменьнікаў не было магчымасьці сабрацца вось так тэрмінова. Але, я думаю, калі мы будзем у сытуацыі збору, то выкажам сваю пазыцыю. Але не адкрыю Амэрыкі, сказаўшы, што ў нас у саюзе розныя падыходы, людзі самых розных поглядаў і меркаваньняў. Нельга сказаць, што СП раптам зьбярэцца і ўсе будуць адзінагалосныя... Грамадзкая скіраванасьць пісьменьнікаў розная. Так, як у самім грамадзтве.

### СТРАШНА!

*Віктар Каваленка, літаратуразнаўца*



Думаю, што найбольшую адказнасьць за тое, што адбылося ў Менску 26 красавіка нясе "партыя" ўлады, бо ў яе руках былі ўсе рычагі рэальнага кіраваньня. Яна безумоўна валодала дастатковай інфармацыяй пра меркаваную тактыку вулічных паводзінаў усіх партыяў і арганізацыяў у гэты жалобны дзень. І не падала клічу згоды, хоць гэта было яе прамым абавязкам. Але была зроблена стаўка толькі на тое, каб блякаваць усе мерапрыемствы апазыцыі і "преподать урок".

Улады абвінавачваюць апазыцыю ў тым, што яна скарыстала жалобны дзень 26 красавіка ў палітычных мэтах. Гэта сапраўды так — скарыстала. Але наўрад ці тут ёсьць склад злачынства. Сёньня ніводная грамадзянская акцыя не пазбаўленая палітызаваных прыўнясеньняў. Людзям сьняцца палітызаваныя сны. А што — забарона Чарнобыльскага Шляху ўладамі і закрыцьцё зоны плошчы Незалежнасьці для мітынгу апазыцыі пад прыкрыцьцём чыста фармальных і сумнеўных тлумачэньняў — не палітыка? А арышты пасьля мітынгу і варварскае зьбіваньне людзей на транспартных прыпынках толькі за тое, што гаварылі па-беларуску, гэта што — не палітыка, а ўсяго толькі мірная, лагодная дабрачыннасьць?

Наагул, усякая забарона ў такі дзень — кашчуннасьць. У гэты

# людзей культуры

дзень павінна дазваляцца кожнаму чалавеку ўнутрана маліцца і клікаць да збавення ўсюды, дзе ён пажадае: дома, у царкве, касьцёле ці на плошчы.

На мой погляд, і апазыцыя, асабліва кіраўніцтва БНФ дапусьціла 26 красавіка ў сваёй тактыцы некалькі момантаў, якія не садзейнічалі кансалідацыі ўсіх тых, хто выйшаў дэманстраваць сваю скруху, боль і спагаду. Грунтуючыся на гэтым, працўнікі БНФ з посьпехам для сябе, хоць і несумленна, выкарысталі яго памылкі ў ідэалягічнай барацьбе.

Адным словам, салідарнасьці няма і яна пакуль што не прадбачыцца. Крайняя экзальтаванасьць вырываецца на паверхню палітычнага жыцьця Беларусі. Грамадзтва расколата і раскол паглыбляецца. Не аднаму мне чуецца ў блізкай будучыні баявы грукат непрымірымых барыкадаў. Страшна! Не дапусьці, Госпадзі.

## РАШУЧЫ ПУБЛІЧНЫ ПРАТЭСТ

*Анатоль Кудравец, галоўны рэдактар часопіса "Нёман"*



Салідарнасьць — гэта перш за ўсё падтрымка. У дадзеным выпадку менавіта маральная падтрымка тых людзей, якіх улады гвалтоўна, насуперак законам дэмакратычнай краіны, насуперак Канстытуцыі, затрымалі і трымаюць як вязьняў, як нейкіх злачынцаў. Маральная падтрымка. Як і ў якім выглядзе? Гэта перш за ўсё перадаць галоснасьці думку звычайных нармальных людзей, што яны катэгарычна супраць такіх антыдэмакратычных, антычалавечых, антыгуманных і антынародных дзеяньняў уладаў. У дадзеным выпадку творчыя саюзы павінны адыгрываць адну з галоўных роляў. Яны тэрмінова павінны заявіць свой рашучы пратэст. А для гэтага трэба тэрмінова сабраць кіраўніцтва гэтых саюзаў і заявіць пратэст — публічна, наколькі і дзе толькі магчыма. Калі будзе магчымасьць — апублікаваць у "Зьвязьдзе", у "Народнай", а калі не — то ў незалежных сродках, якія не залежаць ад прэзыдэнцкай вэртыкалі.

У кожным творчым саюзе ёсьць сілы, якія падтрымваюць і будуць падтрымваць, адстойваюць і будуць адстойваць дэмакратычныя асновы жыцьця ў грамадзтве. Ёсьць такія саюзы, якія цьвёрда стаяць на гэтых прынцыпах. Гэта Саюз Пісьменьнікаў, Саюз Мастакоў, Саюз Тэатральных Дзеячоў, Музычны Саюз. Так што гэтыя сілы ёсьць. Проста трэба дзейнічаць.

## НІЯКАЙ САЛІДАРНАСЬЦІ НЯМА

*Адам Мальдзіс, дырэктар Скарынаўскага Цэнтру*



Я думаю, што салідарнасьць — адно з самых важных на сёньняшні дзень слоў, таму што наша грамадзтва ўсё больш і больш расколваецца паводле самых розных прыкметаў — нацыянальнай, культурнай, рэлігійнай, — і гэта можа скончыцца тым, чым скончыўся раскол грамадзтва ў Босьніі і іншых краінах на Балканах. Безумоўна, не інтэлігенцыя хоча расколу. Інтэлігенцыя хоча менавіта салідарнасьці. Я маю на ўвазе інтэлігенцыю сапраўдную, бо ёсьць псэўдаінтэлігенцыя, якой хочацца як мага больш скандалаў. Салідарнасьць павінна адбывацца на грунце самых простых, ня дужа палітызаваных падставаў, якія былі б прымальныя для ўсіх патрыётаў. Гэта тое, што ў нас ёсьць свая зямля, ёсьць свая гаспадарка, мова, культура, дзяржава, свой дом. Дзеячы культуры сёньня, на жаль, страшэнна разьяднаныя. Ніякай салідарнасьці няма. Ці гэта звычайныя выдаткі цывілізацыі, сказаць цяжка. Нашыя ўлады, на жаль, не разумеюць, што калі няма нармальнай апазыцыі, то ня будзе й нармальнай улады...

Арыштаваньня ні ў якім разе не павінны знаходзіцца разам з крымінальнікамі, таму што гэта палітычная акцыя. Паколькі яны выступаюць супраць сёньняшняга ўраду, яны, з пункту гледжаньня ўраду, — злачынцы, але не крымінальныя, а палітычныя.

Мне спадабалася думка ў "Известиях", што сваімі неразумнымі дзеяньнямі наш урад памнажае колькасьць сьвядомых беларусаў. Гэта значыць, беларускае грамадзтва сьвядома радыкалізуецца. Калісьці ў 1988-м годзе пасьля Дзядоў у мяне спыталіся маладзейшыя людзі — што я пра гэта думаю. Я сказаў, што ў цэлым гэтая зьява станоўчая, нягледзячы на разгон, таму што адна гэтая падзея пераламіла сьвядомасьць грамадзтва. Таксама і цяпер. Людзі ставяцца па-рознаму. Мы, хто вырас у зусім іншым часе, павінны ўсьведамляць, што моладзь пойдзе далей за нас. У навукі, культуры, грамадзкім жыцьці. Самае важнае, што нашы грамадзкія ідэалы сёньня вельмі неакрэсьленыя. Да сапраўднай дэмакратыі мы яшчэ не дараслі і вельмі доўга яшчэ не дарасьцем. У нас ёсьць ідэя правесьці міжнародную канфэрэнцыю "Грамадзкія ідэалы ў посттаталітарным грамадзтве", але мы разумеем, што дзяржава на гэта грошай ня дасьць.

## ЯНЫ ВЕДАЛІ, НА ШТО ІШЛІ

*Уладзімер Някляеў, галоўны рэдактар часопіса "Крыніца"*



Я 27-га быў у жывым эфіры на тэлебачаньні і, уласна кажучы, выказаўся пра гэтыя падзеі, таму магу толькі пашырыць. Я там сказаў, што лічу разьдзіраньне чарнобыльскай трагедыі ў палітычных мэтах абсалютна амаральнай дзеяй як з аднаго боку, так і з другога. Я разумею народнафронтаўцаў, асабліва іх лідараў, якім перакрыта тэлебачаньне, радыё, прэса. Яны палітыкі ў пераважнай большасьці. Але я больш салідарны з Баршчэўскім як зь літаратарам, а не як з палітыкам. Бо гэта для мяне самае асноўнае, самае важнае ў ім. Але яны ведалі, на што ішлі. Ім трэба палітычна не памерці, абазначацца, каб быць нейкай, хоць бы ўяўнай, палітычнай сілай. Яны сталыя мужчыны і ведалі, на што ішлі. Вось вы пытаецеся пра салідарнасьць, а яны ведалі, на што ішлі. І, магчыма, баючыся гэтага ўнутры, яны гэтага й хацелі.

Я быў на гэтым шэсьці ад самага пачатку да самага канца і лічу, што дзякуючы проста асобным людзям, скажам, таму ж Карпенку, ня сталася яшчэ большай бяды, чым сталася. Я ня маю ніякіх асаблівых прэтэнзіяў да Баршчэўскага, бо ён інтэлігентна сябе паводзіў і ў словах і ў дзеяньнях. Але тое, што зрабіў Зянон Станіслававіч Пазьняк, і нават ня столькі фактам зрабіў, колькі антуражам, тэатрам, які ён правёў на гэтым мітынгу... Да мяне зайшоўся адзін знаёмы журналіст, нацыянальна сьвядомы, і кажа: я пасьля гэтага, відаць, напішу артыкул "Пазьняк як вораг беларускай ідэі". Таму што нават калі ты ну ня можаш сказаць тое, што ня можаш сказаць, ты ўсё ж павінен выбіраць момант і абставіны для таго, каб гэта сказаць і ўрэшце людзей, якім гэта неабходна сказаць. Вы пытаецеся пра маю салідарнасьць, а, напрыклад, Пазьняк у адносінах да людзей праявіў антысалідарнасьць. Таму што ён проста вывеў усю гэтую дзею, што адбывалася больш ці менш памяркоўна у нейкую фантасмагарычную рэч, якую я не магу прыняць.

## ТОЕ, ШТО АДБЫВАЕЦЦА ЗЬ ІМІ, АДБЫВАЕЦЦА І З НАМІ

*Алесь Разанаў, паэт, часопіс "Крыніца"*



Мы былі ў Балгарыі, дні беларускай літаратуры адбываліся. Ведалі, што набліжаецца 26-га, унутрана рыхтаваліся, прадбачылі, былі з'арыентаваныя. Ад'яжджалі з Балгарыі недзе адвячоркам. У балгарскім радыё нельга было нічога пачуць. Што адбывалася, мы даведаліся толькі тут.

Хоць мы не ў народным фронце, кожны мае сваю дзялянку, мы ўсе адчуваем, што ёсьць нешта больш глыбокае, фундамэнтальнае, супольнае. Гэта Беларусь, беларуская культура. Мы можам не ўваходзіць у тыя структуры, куды ўваходзяць Баршчэўскі, Вячорка, Хадыка, аднак мы адзін аднога разумеем бязмоўна. Гэта асноўная салідарнасьць: мы ёсьць тут, у гэтай рэчаіснасьці, і мы працуем на гэтую ідэю, на гэтую мэту.

Што я разумею пад салідарнасьцю ў дадзенай сытуацыі, калі яны знаходзяцца там? Мы можам стварыць калі ня акцыю, то нейкі ўнутраны рух, які зафіксуецца, ну, скажам, падыйсьці да дому, дзе яны сядзяць... Калі б наша выданьне было штодзённым, то, можа, вашую гутарку мы ў сябе б надрукавалі... Не хапае інфармацыі. Тут бы штаб ці штабік які стварыць дзеля інфармацыі... Анатоль Вярцінскі ў Балгарыі на пытаньні, што адбываецца ў Беларусі, адказваў: "далоў ідалоў". І гэтая фраза — яна таксама выраз салідарнасьці.

Тое, што нашыя заўсёдныя знаёмцы апынуліся цяпер у такой сытуацыі — гэта проста новая стадыя, якая, дарэчы, відаць, і пажаданая. Быў рух, хаўрус у пэўных мітынгах, а цяпер — проста новы стан. І гэтая зьява прымушае ўсю прастору пэўным чынам пераарганізоўвацца. Тое, што яны ўжо арыштаваныя, што яны ўжо за кратамі, тое, што іх судзяць — гэта фактар, які пераарганізуе ўсю прастору, нават і культурную прастору. Дзякуй ім за тое, што дзякуючы ім гэта адбываецца. Гэта істотна і для іх, і для нас таксама. Тое, што адбываецца зь імі, пэўным чынам адбываецца і з намі.

## Я ПАЛІТЫКАЙ НЕ ЗАЙМАЮСЯ

*Міхась Фінберг, кіраўнік Дзяржаўнага эстраднага аркестру*



Вы ведаеце, я не хацеў бы ніякіх даваць цяпер тлумачэньняў, таму што я працую без палітыкі, я палітыкай не займаюся. Мая палітыка адна — гэта роднае слова. Я займаюся родным словам, беларускай мовай, беларускімі песьнямі. Я ня быў на вуліцы і ніякіх тлумачэньняў даваць не магу. Я за справядлівасьць, за парадак. Я не спэцыяліст, я проста музыкант.

***"НН": Але ж Вы таксама і грамадзянін...***

М.Ф.: Мяне ў Менску не было, я ў гэты дзень быў у Нясьвіжы, я толькі бачыў у тэлебачаньні. Я ведаю, што заўсёды трэба бачыць два бакі, але ж я не юрыст.

## МЫ ЗАЙМАЕМСЯ АБАРОНАЙ НЕПАСРЭДНА

*Карлас Шэрман, пісьменьнік, ПЭН-Цэнтар*

Мы разумеем салідарнасьць непасрэдна. Мы непасрэдна займаемся абаронай тых пісьменьнікаў і журналістаў, якія трапілі за краты, маем непасрэдны кантакт з адвакатам, зь сем'ямі гэтых людзей, адпраўляем і атрымаем інфармацыю. Інфармацыя ўжо трапіла ў Нью-Ёрк, у Вену, у буйнейшыя праваабарончыя арганізацыі. Гэтым займаецца Хельсынская Фэдэрацыя ў Вене, Камітэт Абароны Правоў Чалавека Акадэміі Навук у Нью-Ёрку. З Польшчы нашыя калегі даслалі тэлеграму падтрымкі, салідарнасьці. Мы падключаныя і сёньня займаемся толькі гэтым.

***"НН": А што тычыцца рэакцыі нашай інтэлігенцыі, нашых творчых саюзаў?***

К.Ш.: Інтэлігенцыя розная. Ад нашых творчых саюзаў, як мне вядома, аніякай рэакцыі няма. Я ведаю, што шмат робіць Беларуская Асацыяцыя Журналістаў. Яна незалежная і адразу ж падключылася — ужо шэраг перадачаў зрабілі ў радыё "Свабода", шукаюць шляхі, як дапамагчы. Беларуская інтэлігенцыя надта розная. Ёсьць шэраг дэмакратычных людзей, а ёсьць шмат, большасьць, якая або ніяк ня ставіцца, або ставіцца да гэтых падзеяў адмоўна. Ніякай іншай рэакцыі творчых арганізацыяў я ня ведаю.

*Ганна Матусэвіч*

# Койданаўскі дыярыюш

24.04. У радыё "Свабода" пачула, што загінуў Джахар Дудаеў. Значыць, мая начная відзежа абмінула Беларусь. Мне сёньня лёгка дыхаецца. І на хаду складаюцца сьмяшынкі. Майму Віталіку сёньня пашчасьціла. Не прынёс з гімназіі ні заўвагі, ні двойкі, бо забыўся дзёньнік. На радасьцях выпраўляю ў краму бацьку з "апоўзьлікамі" па какос. Мае вочы фіксуюць усіх чатырох жыхароў маёй сялібы. А язык не пасьпявае камандаваць усім адразу: "Вазьмі цэлафанавыя (Вераніка насоўвае) штаны! Цьфу ты! Мяшкі!" У хаце — рогат, шум!

— Дзеці, вон з хаты! — роў некалі Чаплюк на ўсю Камароўшчыну. А мой стрыечны брат, у якога таксама трое дзяцей, дзяліўся са мной назапашаным досьведам выхаваньня: "А што іх глядзець! Даў дзягі ды выгнаў на вуліцу". І гэта, я Вам скажу, самае чыстае дзела.

... Увечары, калі я пісала, і ўначы таксама нейк надта зьвяглiва брахалі сабакі. Я прачыналася, шчаміла сэрца. Прачнулася каля 3-х гадзінаў ночы. У мазгу засталіся словы: "... цяперашнія мужы былі некалі каменнымі салянымі глыбамі" (?) Я выглянула ў вакно. Адзін сабака біў хвастом у цяпліцы, (яна пры доме). Сабака пакінуў махаць хвастом, як бы выцягнуўшыся насустрач, да 3-га паверху. Да раніцы наступіла цішыня.

25.04. Прапанавала Барташэвічу, каб бэнээфаўцы паслухалі на сходзе песьні Данчыка, Акуліна. Трэба стварыць урачысты настрой на заўтра. Гэта — як малітва. Ізноў не стрымалася ад выпадаў. Трэба будзе перапрасіць прылюдна, бо яны ж малайцы. Такую работу цягнулі на сваіх плячах, пакуль усе спалі, у тым ліку й я.

... Адцьвітаюць дзяціныя кактусы. Зь вялікага камля адходзіць лісток. На вялікім камлі ўжо скамечылася вялікая Віталькава краска. На лістку было з двух бакоў па адной красачцы. Маленькая Міколкава ўжо асыпалася. І толькі Веранiччына краска раскашуе. Што значыць Жанчына!

26.04. Віталік папрасіўся ехаць са мной на шэсьце. Дакладней, гэта ягоная ініцыятыва — ехаць. Адразу нам падклалі маленькую сьвінку: не спынілі электрычкі на станцыі мэтро "Акадэмія Навук". Ішлі па праспэкце. З вокнаў фізкультурнага інстытуту павысоўваліся разявакі — студэнты. З натоўпу гукалі: "Леапольд, выходзі!" Мы пабачылі амаль усіх сваіх менскіх сяброў. У пярсьцёнку маладых хлопцаў нёс сьвечку моцна пастарэлы Пазьняк. Віталік дзівіўся на перакуленыя машыны. Наш Міхась Цішук перавязваў акрываўленую галаву немаладога ўжо чалавека. Бачыла, як імгненна жанчына схапіла за каўнер чырванатварага маладзёна, калі той памкнуўся дражніць "малпаў", схаваных за плотам тарчаў насупраць катэдральнага сабору. З гары да людзей спускаўся міліцыянт-сабакар. Мост на стыку вуліцаў Нямігі — Багдановіча, здаецца, зьнемагаў ад цяжару людзей на сабе. Шэсьце скандавала да спэцназаўцаў з забраламі: "Фа-шысты!" Віталік не згадзіўся: "Яны таксама людзі". Мы сталі клікаць іх: "Хадземце да нас!" "Людзі" ня йшлі. Сам мітынг мы прайгнаравалі, пайшоўшы да сяброў на кватэру.

За сёньняшні вечар столькі дзівосаў наглядзеўся сын, што ў яго разьбягаліся вочы! Калі мы дзесьці а палове 12-ай валакліся па Койданаве, Віталік падвёў рысу дню: "А добра, што я паехаў на шэсьце, хоць першы раз амонаўцаў пабачыў".

# КРАІНА

Працяг са старонкі 2

ваньня працоўнай дзейнасьці ды пэнсійнага забесьпячэньня, рэформы органаў мясцовага самакіраваньня, забесьпячэньня стабільнасьці і правапарадку. Адзінагалоснае рашэньне Канстытуцыйнага Суда канчатковае і ўступіла ў дзеяньне з моманту яго абвяшчэньня. ЖЫТЛО. Паводле другой Нацыянальнай справаздачы Рэспублікі Беларусі ў 1995 г. на аднаго жыхара краіны прыпадала ў сярэднім 19,5 м² карыснай жыльлёвай плошчы. Гэта ў два разы перавышае аналягічны паказчык у іншых краінах сьвету, якія знаходзяцца на аднолькавым з намі ўзроўні сацыяльнага ды эканамічнага разьвіцьця. Колькасьць кватэраў у Беларусі нават перавышае агульную колькасьць сем'яў. У гарадох заселенасьць адной кватэры складае 1,26 чалавека. Другое жытло за горадам мае кожная трэцяя сям'я, — сьцьвярджаецца ў справаздачы. Тым ня менш з-за адсутнасьці рэальных рэформаў вастрыня жыльлёвага пытаньня, што засталася ў спадчыну ад сацыялізму, не зьмяншаецца. Як, дарэчы, і ўсеагульнае жабрацтва. 27% гараджанаў жывуць ва ўмовах, горшых за сацыяльна гарантаваны мінімум.

**ПРАНЦЫ.** У Берасьці на паседжаньні гарвыканкаму вырашана стварыць штаб барацьбы з пранцамі. Як вядома, паводле афіцыйных нормаў Сусьветнай арганізацыі аховы здароўя, калі на 100 тыс. чалавек прыпадае 50-60 выпадкаў захворваньня на сыфіліс, то сытуацыя пагражае выйсьці з-пад кантролю. А ў Берасьці гэтая лічба перавысіла паказчык небясьпекі ажно ў два разы. Упершыню за апошнія 25 гадоў зарэгістраваныя выпадкі нараджэньня хворых на пранцы немаўлятаў. У гарадзкім скурвэндыспансэры на прафіляктычным лячэньні стала занаходзяцца 10-12 дзяцей.

**ДЫФТЭРЫЯ.** Беларускія мэдыкі заклікалі пасьпяшацца ўсіх, хто яшчэ не зрабіў прышчэпку ад дыфтэрыі. Бо існуе рэальная пагроза эпідэміі гэтага захворваньня ў Беларусі. У 1993 г. было зафіксавана 120 выпадкаў дыфтэрыі, а летась ужо 322, прычым 14 зь іх закончыліся сьмерцяй. З 13 да 23 траўня ў Беларусі праводзіцца кампанія масавай вакцынацыі насельніцтва. Усе паліклінікі краіны будуць працаваць у дзьве зьмены. Прышчэпкі можна зрабіць на месцы жыхарства, на працы, на спэцыяльных часовых прышчэпкавых пунктах і дома. Усе на вакцынацыю!

**ПАЧЫН.** Дзяржаўная беларуская прэса паведаміла пра удзел вышэйшага кіраўніцтва краіны ў традыцыйным камуністычным суботніку, які чамусьці перасталі менаваць ленінскім. У рабочыя спэцоўкі апрануліся А.Лукашэнка, М.Чыгір, М.Мясьніковіч ды іншыя члены ўраду й супрацоўнікі апарату выканаўчай улады. Саноўная брыгада працавала на будаўніцтве станцыі мэтро "Партызанская".

**ГУСОЎСКІ.** У дворыку Дома літаратараў у Менску зьявіўся помнік беларускаму паэту-лаціністу Міколу Гусоўскаму. Ініцыятарам стварэньня помніка стаў клюб "Спадчына", скульптуру выканаў мастак Ул.Панцялееў, а фундавала помнік фірма "Тэст" (прэзыдэнт А.Нехарошаў). Сёньня старшыня клюбу "Спадчына" сп. А.Белы ўзгадняе зь менскімі гарадзкімі ўладамі месца, дзе будзе ўстаноўлены помнік славутаму паэту.

# СЬВЕТ

**МАЛАКО.** У Англіі да нядаўніх жахаў, што былі выкліканыя рызыкай захварэць на "кароўе шалёнства" ад ужываньня ялавічыны, дадаліся новыя — малочныя. Брытанская мэдычная асацыяцыя паведаміла пра небясьпеку хваробы Кроўна. У малацэ ангельскіх кароваў была выяўленая бактэрыя, што выклікае рэдкую і пакуль невылечную хваробу, на якую ўжо цяпер пакутуюць 80 тыс. брытанцаў. Штогод шэрагі хворых папаўняюцца на 8 тыс. чалавек. Мэханізм заражэньня людзей праз малако пакуль ня высьветленыя. Сымптомы — страта вагі, нясьпынныя болі, бягунка, пасьля чаго — непазьбежная сьмерць. Сама бактэрыя, што зьяўляецца прычынай хваробы, вядомая ўжо блізу 100 гадоў, але спосабаў змаганьня зь ёю пакуль ня знойдзена. Брытанскія навукоўцы лічаць, што бактэрыя паражае ня ўсіх людзей, але для большай засьцярогі рэкамэндуюць ужываць выключна стэрылізаванае малако, а ня звыклае пастэрызаванае. Дарэчы, выпадкі хваробы Кроўна зафіксаваныя і ў іншых краінах Заходняй Эўропы ды ЗША.

**ПАЧЫН-2.** Справы Леніна ўпарта перамагаюць ня толькі ў Беларусі, але і ў ЗША. Тут таксама адбыўся суботнік, толькі, відаць, не камуністычны, а капіталістычны. Прэзыдэнт Клінтан ды віцэ-прэзыдэнт Гор узялі ўдзел у расчыстцы пацярпелага ад паводкі нацыянальнага парку ў штаце Мэрыленд. Амэрыканскія кіраўнікі, у адрозьненьне ад беларускіх, працавалі дакладна паводле ленінскага ўзору — цягалі бярвеньні. Невядома, праўда, ці былі бярвеньні сапраўдныя, ці надзіманыя. Мэтай мерапрыемства было прадэманстраваць клопат пра навакольнае асяродзьдзе ды паказаць, што прэзыдэнцкая каманда знаходзіцца ў добрай спартовай форме і блізкая да народу.

**АЎСТРАЛІЯ.** Жахлівая трагедыя адбылася ў аўстралійскім штаце Тасманія ў невялікім мястэчку Порт-Артур. Тут звар'яцелы 29-гадовы маньяк забіў 32 чалавекі ды параніў блізу 20. Усё адбылося ў мінулую нядзелю. Да мясцовай кавярні, дзе было 50 чалавек, пад'ехала машына. Кіроўца зайшоў у кавярню, замовіў бутэрброд. Пасьля выцягнуў з доўгай спартовай сумкі аўтаматычную вінтоўку і адкрыў агонь па наведніках. Затым забойца выскачыў на вуліцу, абстраляў вялікую групу турыстаў, сеў у сваю машыну ды зьехаў. Праз некалькі хвілінаў ён уварваўся ў прыватны дом і захапіў у якасьці закладнікаў гаспадароў. Ён абстраляў шрубалёт, на якім перавозілі параненых ім людзей. Страляў ён і ў паліцыю, што акружыла дом. Улады вялі з злачынцам перамовы да поўначы. Але пасьля сувязь зь ім перапынілася, бо ў ягоным радыётэлефоне падсела сілкаваньне. Маньяк быў схоплены жывым пасьля таго, як сам падпаліў дом і тым самым даў паліцыі нагоду для штурму. Паведамляецца, што забойца хварэў на ярка выражаную форму шызафрэніі.

**ЎАЙТ-ЎОТЭР.** Прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан даў тлумачэньні ў справе няўдалай і скандальнай гісторыі



з набыцьцём нерухомасьці. Яго жонка яшчэ раней сьведчыла непасрэдна перад судом. Біл Клінтан у суд не пайшоў, а запісаў свае сьведчаньні на відэастужку. Гэты матэрыял будзе выкарыстаны на судзе ў справе Джэймса ды Сюзэн МакДугл, якія абвінавачваюцца ў банкаўскім махлярстве ды змове. Як вядома, у 70-я гады МакДуглы ды Клінтаны паўкладалі свае сродкі ў забудову раёну Ўайт-Ўотэр. Гэтая акалічнасьць зрабіла Клінтана добрай мішэняй для праціўнікаў прэзыдэнта з Рэспубліканскай партыі. Яны спрабуюць раскруціць справу пад назваю Ўайт-Ўотэр на ўзор славутага Ўотэр-Гейту, які калісьці каштаваў прэзыдэнцкага крэсла Ніксану.

**НЕ ПАЛІЦЬ!** У Польшчы з 1 траўня пачаў дзейнічаць закон, скіраваны на барацьбу з курэньнем.



Называецца ён "Пра абарону здароўя ад наступстваў ужываньня тытуню". Закон пералічвае ўсе месцы, дзе катэгарычна забараняецца паліць, ды прадугледжвае шэраг вялікіх штрафаў для парушальнікаў. Максымальны памер штрафу дасягае 2 тыс. даляраў. Закон пашырае сьпіс абмежаваньняў для рэклямы тытунёвых вырабаў. У дадатак да ранейшай забароны рэклямы цыгарэтаў у радыё, тэлевізіі ды ў маладзёжнай прэсе цяпер забараняецца рэклямаваць тытунь у кінатэатрах ды іншых культурных установах.

Уводзяцца нормы дапушчальнага ўтрыманьня ў цыгарэтах шкодных рэчываў. Рэглямэнтуецца наяўнасьць на пачках ды рэклямных плякатах абавязковых надпісаў пра шкоднасьць курэньня. У зьвязку з тым, што забараняецца прадаваць цыгарэты непаўналетнім, уводзіцца забарона на продаж цыгарэтаў паштучна ды праз аўтаматы. Як сьцьвярджаюць спэцыялісты-правазнаўцы, польскі закон лічыцца адным з самых суворых у сьвеце.

**ЛЮФТВАФЭ.** Здзейсьнілася колішняя мара Германа Герынга. Нарэшце самалёты нямецкага Люфтвафэ будуць лётаць над тэрыторыяй ЗША. Міністры абароны Нямеччыны ды ЗША падпісалі пагадненьне пра стварэньне пры базе вайскова-паветраных сілаў ЗША ў штаце Нью-Мэксыка цэнтру лётнай падрыхтоўкі Люфтвафэ. Гэтая славутая база Холаўмэн Эарфорс Бэйз, што знаходзіцца сярод гораў у бязьлюднай пустыні, ужо шмат гадоў выкарыстоўваецца для выпрабаваньня новых узбраеньняў. Менавіта тут у ліпені 1945 была ўзарваная першая ў гісторыі чалавецтва атамная бомба.

Цяпер там будуць разьмешчаныя самалёты Бундэсвэру. Туды зь Нямеччыны ўжо прыбылі першыя

Працяг на старонцы 19

# Здарэньні

## Згарэў палігон

У Веткаўскім раёне згарэў спэцыялізаваны радыяцыйны палігон. Ён быў створаны Інстытутам лесу Акадэміі Навук дзеля вырошчваньня чыстых пасадак на забруджаных землях. Палігон размяшчаўся паблізу могілак адселенай вёскі Барталамееўкі. Прычынай пажару сталі, напэўна, сьвечкі на магілах. Як лічыць дырэктар Інстытуту лесу Віктар Іпацьеў, загінуў плён сямігадовае працы яговых супрацоўнікаў. Згарэлі таксама ўнікальныя рэактывы ды тэхналёгіі, створаныя на замову інстытуту ў іншых навуковых установах былога СССР. Страчанае ня мае аналягаў, і таму кошт яго не паддаецца падліку.

## Хадайніцтвы адхіленыя

Як паведамляе агенцтва "Інтэрфакс", у Беларусі з пачатку году выканана 14 сьмяротных прысудаў. Яшчэ звыш 20-ці забойцаў чакаюць, як вырашыць іхны лёс прэзыдэнт Лукашэнка. Усяго за 1995 год было выканана 30 сьмяротных прысудаў. З пачатку красавіка Лукашэнка ўжо адхіліў 6 прашэньняў аб літасьці. Сярод іх было хадайніцтва 40-гадовага Мікалая Ваўка з Магілёўшчыны. Летась пры спробе згвалціць 10-гадовую дзяўчынку, Воўк зьбіў ды задушыў яе капронавай вяроўкай, а пасьля закапаў у сваім гародзе. Лукашэнка адхіліў чалабітную свайго земляка-садыста. Цяпер на стале ў прэзыдэнта ляжыць хадайніцтва менчука Ігара Вішнеўскага. Пры рабаваньні дому ён забіў сям'ю з трох чалавек, а пасьля, каб замесьці сьляды, падпаліў хату.

## Затрымалі рэкеціраў

Супрацоўнікі Ўправы МУС па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю ў Менску ды Менскай вобласьці затрымалі двух рэкеціраў, што вымагалі ад сям'і прыватных прадпрымальнікаў 25 тыс. даляраў. Затрыманьне адбылося ў раёне ўнівэрсаму "Рыга" ў момант перадачы злачынцам грошай. Хаця міліцыянтам і давялося пастраляць у паветра, ахвяраў не было.

## Беларускія мытнікі "бяруць"

У Менску затрыманы начальнік Дзяржаўнага мытнага камітэту Беларусі А.Паходня і адзін з ягоных калегаў, старэйшы інспэктар мытнага камітэту. Як паведамляе агенцтва "Інтэрфакс", яны падазраюцца ў атрыманьні хабару памерам 3 тыс. амэрыканскіх даляраў. Іх злавілі, калі прадстаўнікі адной камэрцыйнай фірмы перадавалі ім валюту за мытнае афармленьне грузаў. Дадатковай інфармацыі МУС у інтарэсах сьледзтва ня даў, але нагадаў, што сёлета гэта ня першае такое здарэньне ў мытным камітэце.

## У калодзежы

Мінулае нядзелі сантэхнікі-рамонтнікі ВА "Менскводаканал" знайшлі ў адным з каналізацыйных калодзежаў сталіцы труп мужчыны зь пятлёю на шыі. Пра што й паведамілі ў міліцыю. Тая спрацавала надзвычай апэратыўна, і літаральна праз некалькі гадзінаў забойцы былі затрыманыя. Імі аказаліся былая жонка ахвяры з прыяцелем. Забілі небараку, відаць, дзеля таго, каб забраць сабе ягоную кватэру. Забойства адбылося на кватэры ў ахвяры. Пасьля злачынцы адцягнулі труп на 2-ю вуліцу Шчорса ды скінулі ў калодзеж. Калі б ён праляжаў там некалькі дзён, ад яго б напэўна нічога не засталося — зьелі б пацукі.

## Пад высакавольтнай лініяй

Таксама ў мінулую нядзелю ў Менску ў раёне вуліцы Несьцерава, што побач з кальцавой шашой, акурат пад высакавольтнай лініяй знайшлі труп абгарэлага хлопчыка гадоў 10-12. Было відавочна, што загінуў ён ад паражэньня токам. Акалічнасьці высьвятляюцца.

## На вялікай дарозе

На шашы Гомель-Бранск, паблізу станцыі Ларышчава, адбыўся напад чатырох злодзеяў на грузавік "КАМАЗ". Як паведаміла агенцтва "Інтэрфакс", у машыне былі жыхары Гомеля: кіроўца, прыватны прадпрымальнік — уладальнік "КАМАЗа", і пасажыр. Са словаў пацярпелых, іх спынілі двое мужчын і папрасілі дапамагчы выцягнуць іхную заграззлую на прасёлку машыну. Калі "КАМАЗ" зьехаў з шашы на прасёлкавую дарогу, зьявіліся яшчэ два злачынцы ды напалі на тых, што былі ў "КАМАЗе". Пасажыры "КАМАЗа" спрабавалі супраціўляцца. У адказ злодзеі ўсадзілі нож у гаспадара грузавіка, а кіроўцу зьбілі. Пасьля гэтага бандыты забралі 47,8 млн. расейскіх рублёў ды зьбеглі. Вядзецца сьледзтва.

## Кухары-шкоднікі

68 выхаванцаў Высакоўскага, што Берасьцейшчыне, санаторнай школкі-інтэрнату атруціліся ды патрапілі ў шпіталь з дыягназам востры гастраэнтэрыт. Паводле агенцтва БелаПАН прычынай сталася салата "Аліўе", якую давалі дзецям на вячэру. Праверка выявіла нагэтульскі шмат санітарных парушэньняў на кухні школкі, што дзіўна было, як такое ня здарылася яшчэ раней.

## Цётка-садыстка

Зь вёскі Дружба Менскага раёну з моцнымі пабоямі ў шпіталь была дастаўленая 3-гадовая дзяўчынка. Яна сталася ахвярай нейкай "цёткі Галі". Тая здзекавалася зь яе, біла, прыпальвала цела цыгарэтай. Як высьветлілася, садыстка зьяўляецца кватаранткай у доме бабулі дзяўчынкі. Бацька малой сядзіць у турме, а маці недзе бадзяецца. Пры аглядзе памяшканьня, дзе жыла "цётка Галя", былі знойдзеныя мэдычныя шпрыцы зь сьлядамі опію. Міліцыя лічыць, што кватарантка арганізавала прытон для наркаманаў. Сама "цётка Галя" адмаўляецца ад удзелу ў нанясеньні цялесных пашкоджаньняў дзяўчынцы.

## Фальшывыя даляры

Ня доўга радаваўся адзін мянчук з нагоды выгаднага продажу свайго патрыманага "Форду". З 5300 амэрыканскіх даляраў, атрыманых узамен за машыну шмат купюраў аказаліся фальшывымі. Гэта высьветлілася, калі прадавец угледзеў аднолькавыя нумары на розных банкнотах. Ён зьвярнуўся ў міліцыю. Па сьвежых сьлядах удалося затрымаць пакупніка "Форда". Ім аказаўся жыхар расейскага горада Разань. Пры асабістым аглядзе ў яго знайшлі 7 тыс. фальшывых даляраў. Уладальнік падробак сьцьвярджае, што набыў несапраўдную валюту ў абменным пункце ў Маскве, і таму нават падумаць ня мог, што тая можа быць фальшывая.

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

№ 7/96
6 — 12 траўня

Новае слова на рынку беларускае прэсы — штотыдзень 12 палосаў патрэбнае інфармацыі

# інфарматар

НАША НІВА

ШТОТЫДНЁВЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ДАДАТАК ДА ГАЗЭТЫ НАША НІВА

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ BELARUSIAN PUBLIC RELATIONS ASSOCIATION



## КАЛЯНДАР ВЫСТАВАЎ І КІРМАШОЎ ВА "ЭКСПАФОРУМ" У 1996 ГОДЗЕ.

**15/19.5 Консумэкспа'96***

Вопратка, абутак, футравыя й скураныя вырабы. Тканіны. Галянтарэя. Побытавыя прыборы й абсталяваньне. Прадметы інтэр'еру. Сувэніры, каталёгі, часопісы модаў.

**28/31.5 Усё для дому. 4-я Міжнародная выстава**

Праектаваньне, будаўніцтва й рамонт жылых і службовых памяшканьняў. Сантэхніка й ацяпленьне. Прадметы аздабленьня інтэр'еру. Ахова й сыгналізацыя.

**28/31.5 Белхімія'96. 4-я Міжнародная выстава**

Абсталяваньне й тэхналёгіі нафтахімічнай вытворчасьці. Прадукты арганічнага сынтэзу. Аграхімія, фармацэя, касмэталёгія.

**2/5.7 Бістро'96. 2-я Міжнародная выстава**

Абсталяваньне й тэхналёгіі для рэстаранаў, бараў, крамаў. Перапрацоўныя мінікомплексы для харчовае прамысловасьці. Прадукты харчаваньня хуткага прыгатаваньня.

**2/5.7 Піва. 3-і Міжнародны кірмаш**

Абсталяваньне й тэхналёгіі для вытворчасьці нацыянальных гатункаў піва. Піва: сьветлае, цёмнае, пшанічнае, безалькагольнае. Міжнародны конкурс-дэгустацыя.

**2/5.7 Віно й напоі. 2-і Міжнародны кірмаш**

Абсталяваньне й тэхналёгіі для вінаробнай і лікёра-гарэлкавае вытворчасьці. Нацыянальныя, маркавыя, сувэнірныя напоі й віно. Міжнародныя конкурсы-дэгустацыі.

**26/31.8 Дзіцячы сьвет 2-і**

2-і міжнародны гуртава-розьнічны кірмаш тавараў для дзяцей. Дзіцячая вопратка, абутак. Прадукты харчаваньня й напоі. Цацкі й разьвіцьцёвыя гульні. Канцылярскія прылады. Тавары для немаўлятаў.

**19/22.9 Будпрагрэс'96. 4-я Міжнародная выстава**

Мэханізацыя працы ў будаўніцтве. Абсталяваньне для жыльля й будаўнічыя матэрыялы. Праекты катэджаў і лецішчавых дамкоў.

**2/55.10 Менскі кірмаш Восень'96**

13-ы Міжнародны ўнівэрсальны кірмаш

Тавары народнага спажываньня. Абсталяваньне й тэхналёгіі для вытворчасьці тавараў народнага спажываньня.

**12/15.11 Сучасны офіс і банк**

5-ы Міжнародны салён.

Інфармацыйныя банкаўскія тэхналёгіі. Аргтэхніка й вылічальная тэхніка. Праграмнае забесьпячэньне. Сродкі сувязі й сыстэмы бясьпекі.

**27/30.11 Белпрадукт***

3-я Міжнародная выстава.

Прадукты харчаваньня, напоі.

**27/30.11 Ласун***

Міжнародная выстава.

Кандытарскія вырабы, марозіва, кансэрваваныя прадукты; сочыва, джэмы, сокі, кампоты. Абсталяваньне й тэхналёгія для вытворчасьці й пакаваньня.

**10//13.12 Security — Менск**

Міжнародная выстава сродкаў бясьпекі.

Бясьпека асобы, уласнасьці, інфармацыі. Сыстэма пажарнай бясьпекі. Ахова аб'ектаў і мяжы. Мытны догляд. Сродкі выратаваньня.

**24/30.12 Навагодні Менскі кірмаш***

3-і гандлёвы кірмаш сувэніраў і падарункаў.

Перадсьвяточны распродаж сувэніраў і падарункаў. Дэманстрацыя мадэляў вопраткі й абутку. Канцэртныя праграмы.

**Арганізатары: ВА "ЭКСПАФОРУМ" і ВК "МІНСКЭКСПА"*



з гэтага нумару мы пачынаем новую сталую рубрыку **СПОРТ**





## ГАСПАДАРКА

**АНОНС**

Для мыцьця й чысткі посуду выкарыстоўваецца каля 100 відаў розных прэпаратаў і хімічных рэчываў, якія паводле свайго ўзьдзеяньня на паверхню падзяляюць на безабразіўныя і абразіўныя.

Пераважна для мыцьця посуду скарыстоўваюць безабразіўныя рэчывы, а што да абразіўных, то іх варта ўжываць толькі для чысткі моцна забруджанага посуду.

*Больш падрабязьна чытайце ў наступным нумары.*

## КОШТЫ НА РЭКЛЯМУ Ў ГАЗЭЦЕ "НАША НІВА" І ІНФАРМАЦЫЙНЫМ ДАДАТКУ "ІНФАРМАТАР"

| | "НАША НІВА" | "ІНФАРМАТАР" |
|---|---|---|
| Базавая стаўка ч/б | $\$0{,}5\ см^2$ | $\$0{,}4\ см^2$ |
| Замова ў рэклямным бюро | $\$0{,}5\ см^2$ | $\$0{,}4\ см^2$ |
| Замова праз тэлефон | $\$0{,}6\ см^2$ | $\$0{,}5\ см^2$ |
| Першая паласа | ч/б – $\$1\ см^2$ Колер (ня меней за 100 $см^2$) – $\$2{,}5\ см^2$ | ч/б – $\$0{,}9\ см^2$ |
| Радковая рэклама на паласе "Біржа працы" | | 5.000 руб. (зьмяшчаецца запар у двух нумарах) |
| Колер | ня меней за 50 $см^2$ – $1 | ня меней за 20 $см^2$ – $\$1{,}5\ см^2$ |
| TV–праграма | | ч/б – $\$1\ см^2$ колер – $\$1{,}5\ см^2$ (ня меней за 50 $см^2$) |

Замовіць рэкляму можна праз тэлефон 36-76-75 з 10.00 да 20.00 штодня, ці на адрасе: вул. Пуліхава, 29, кв. 61, да 18.00. Пры гэтых коштах ня ўлічваецца выраб арыгінал-макету.

**Падпісны кошт 12.000 на месяц**
**36.000 на квартал**

*** Прадугледжаны скідкі на колькасьць выхадаў і плошчу рэклямных абвестак**



Падпіска на газэту
**"НАША НІВА"**
праз пошту і "САЮЗДРУК"
**індэкс 63125.**
**Падпіска празь недзяржаўную сетку дастаўкі**
тэлефон 29-22-10 (Цыбульскі Леанід)

Наша Ніва 6 траўня 1996 №8(46)

# Выбар веры

У адрозьненьне ад большасьці сваіх суседзяў, беларусы падзеленыя паміж некалькімі хрысьціянскімі канфэсіямі. Палякі і літоўцы — каталікі, латышы — пратэстанты, расейцы — праваслаўныя. А беларусы — і праваслаўныя, і каталікі, і пратэстанты. Такі падзел утварыўся гістарычна. Нельга сказаць, што ён расколвае нацыю, але й не спрыяе нацыянальнаму станаўленьню. Бо, да прыкладу, у нашых суседзяў нацыянальнае станаўленьне заўсёды адбывалася на грунце адной рэлігіі.

Разумеючы гэта, дзеячы нацыянальнага адраджэньня ў Беларусі заўсёды разважалі пра тое, каб прывесьці нацыю да адной роўніцы, адначасова імкнучыся зьбеларушваць усе канфэсіі. Думаецца, рабілася гэта кожнага разу імпульсіўна, пад уплывам прыкладаў суседніх народаў, але без разуменьня адзінае стратэгічнае мэты. Такой мэты няма і сёньня. Суседзкія прыклады засталіся недасяжнымі ідэаламі, і нішто не паказвае, што рана ці позна беларусы ўсё ж прыйдуць да аднае канфэсіі.

Сёньня ўжо ёсьць беларускамоўныя касьцёлы, цэрквы, спрабуюць беларусізавацца розныя галіны пратэстантызму. Але так ці інакш, усе гэтыя спробы ня маюць значнага пашырэньня. І ў масавай сьвядомасьці па-ранейшаму каталіцызм — гэта "польскі касьцёл", праваслаўе — гэта "расейская царква", а пратэстантызм дагэтуль нясе на сабе накінуты яму за саветамі вобраз паўпадпольнае сэкты.

Будучыня і патрэба адной, "беларускай" канфэсіі застаецца пад пытаньнем.

Разам з тым, маса народу пасьля атэістычнага бытнаваньня за савецкім часам шукае свае рэлігійнае саматоеснасьці. І праходзіць гэты працэс неверагодна страката, ніякім чынам не ў кантэксьце аднае роўніцы для ўсіх. Пры выбары найбольшая частка нэафітаў і моладзі кіруецца "вераю продкаў" — сваіх бацькоў ці дзядоў. Сярод нацыянальна сьведамых людзей вядомыя прыклады хрышчэньня ва ўніяцтва, якое пакуль не атрымала ў Беларусі шырокага разьвіцьця. Зусім сьвежыя прыклады хрышчэньня інтэлігенцыі ў каталіцызм, выкліканыя залішне энэргічнымі захадамі А.Лукашэнкі зрабіць Беларусь аднаправаслаўнай краінай і надаць расейскаму праваслаўю статус дзяржаўнае рэлігіі. Нежаданьне атаясамліваць сябе з прэзыдэнтам выклікала ўцёкі ў "іншую" канфэсію.

Выходзіць так, што з усіх суседзкіх прыкладаў нам бліжэй украінскі. Ва Украіне існуе некалькі праваслаўных цэркваў, каталіцызм, уніяцтва і пратэстантызм. У такім разе наша нацыянальнае станаўленьне будзе адбывацца не на падставе рэлігіі, а на іншым грунце — на дзяржаўнасьці, парлямэнтарызме, Канстытуцыі.

Цікавая мадэль беларуска-рэлігійнай сытуацыі склалася на Віленшчыне, дзе жыве некалькі дзясяткаў тысячаў беларусаў. Апошнімі гадамі з ініцыятывы актывістаў беларускіх арганізацыяў тут ствараліся каталіцкая і праваслаўная суполкі, ішлі перамовы зь ерархамі аб беларускай службе ў пэўным касьцёле і пэўнай царкве. Але на сёньня рэальнага сталага выніку гэтыя захады не далі. Між тым сама сабою ўзьнікла і існуе ў Вільні іншая беларуская царква — пяцідзясятніцкая. Не "ахопленая" дзеячамі нацыянальнага адраджэньня, яна, тым ня менш, і гуртуе пераважна беларусаў, і беларускай мовы не цураецца, і рэлігійную літаратуру дастае па-беларуску, і песьні сьпявае, у якіх Ісус рыфмуецца з словам Беларусь.

Пра Віленскую Царкву Хрысьціянаў Веры Эвангельскай распавядае ў сваім матэрыяле Тацяна Поклад зь Вільні*.

** нэапратэстантам (у першую чаргу, эвангелістам і баптыстам) у сучаснай Беларусі прысьвечаны артыкул Юрася Шаўцова ў апошнім нумары часопіса "Форум" (№3'1996).*

# Пяцідзясятнікі

Царква Хрысьціянаў Веры Эвангельскай іначай, паводле перакладу з ангельскай назвы Pentecostal Church, завецца Царквою Пяцідзясятніцы (у гонар вядомага хрысьціянскага сьвята). Гэты пратэстанцкі кірунак нарадзіўся ў Амэрыцы ў самым пачатку XX ст., таму першая, арыгінальная назва, — ангельская. У нас ужываюцца як аналягічныя абодва найменьні. Створаная ў Вільні ў 1922 годзе**, гэтая царква жыве.

Пяцідзясятніцкая царква — гэта не будынак, не каменны храм, а людзі, што зьбіраюцца разам для малітвы, для працы, для забаваў. Адным словам, царква — гэта грамада.

## Беларуская царква

Пастар Барыс Філон — беларус, і сярод вернікаў, паводле ягоных словаў, 80% — беларусы. Беларускае слова тут чуваць у гутарках, у малітвах і нават у казаньнях падчас набажэнстваў. Па-беларуску сьпяваюцца духоўныя гімны-псальмы, і сам пастар гаворыць на роднай мове зусім чыста.

Псальмы часам выконвае Васіль Кавальчук, прафэсійны сьпявак (ён вучыўся ў Віленскай кансэрваторыі ў знанага беларускага опэрнага сьпевака Лявона Мурашкі). Многія прысутныя слухаюць гэтыя сьпевы са сьлязьмі на вачах. Напрыклад, сястра Зіта Лумбіс. Яе сымпатыі да беларушчыны — яшчэ з часоў дэпартацыі ў Сібір, дзе ёй давялося жыць разам зь беларусамі. Яна падаравала мне даволі вялікае выданьне



Віленскі тэалягічны каледж.

"Песнь Возрождения: сборник духовных гимнов и песен евангельских церквей" (Менск, 1994). Частка гэтых песень — па-беларуску. Васіль Кавальчук кажа, што па-беларуску яго часта просяць засьпяваць на канцэртах у ЗША, крыху радзей — у Беларусі... Сям'я Кавальчукоў — Family Kovalchuk — гэта адзіны сьпеўны гурт, які выяжджае з гастролямі, робіць студыйныя запісы, выпускае свае аўдыёкасэты. Апошняя называецца "Ёсьць край".

Як растлумачыць існаваньне беларускай эвангельскай царквы ў Вільні? Па-першае, паўсюль на Віленшчыне ў такіх цэрквах высокі працэнт беларусаў. Па-другое, Пяцідзясятніцкая царква ніколі не падлягала палітычным ды ідэалягічным уплывам і мэты дэнацыяналізацыі тут ніколі ня ставіліся. Іншымі словамі, беларусы як такія ў гэтай канфэсіі захаваліся найлепей, хоць вонкавыя працэсы асыміляцыі паўплывалі, вядома, і на іх.

## Эміграцкая царква

Сёньня Віленская эвангельская царква налічвае 500 чалавек. Многія прыехалі ў канцы 60-х — 70-я гады зь Беларусі, бо ў Літве вернікаў перасьледавалі менш. Цяпер нярэдкія выпадкі ад'езду цэлых сем'яў у Амэрыку. Магчыма, калі б я запыталася ў пастара: "Ці можна Вашу царкву назваць эміграцкай?" — ён бы зьдзівіўся. Напраўдзе, эміграцкае сьвядомасьці тут, бадай, няма. А магчыма пастар адказаў бы: "Хрысьціянам Радзіма — Дом Божы". Усьведамленьне часовасьці зямнога існаваньня — істотная рыса. І яшчэ — адчуваньне Бога ў сабе. Ня толькі над сабой, але і ва ўласнай душы. Таму многія заблытаныя пытаньні вырашаюцца вельмі проста. Эміграцыя, пошукі лепшага... Але разам з тым важна проста прыстойна і добра пражыць сваё зямное жыцьцё. Вытрываць свае пакуты, калі трэба. І не выдумляць сабе ўцехі з свайго пакутніцтва, калі можна не пакутаваць.

"Ці не сумуе яна там па Бацькаўшчыне?" — "Сумуе, вядома, па дому, але ж умовы жыцьця там нашмат лепшыя, проста — зусім людзкія ўмовы," — кажа Васіль Кавальчук пра сваю старэйшую дачку Натальлю. Яна жыве і сьпявае цяпер у ЗША. Сам брат Васіль (былы рэгентам царкоўнага хору, цяпер — саліст) зь сям'ёй — у Вільні. Застаўся, бо верыць, што Бог вызначыў яму месца тут. Езьдзіць сьпяваць ня толькі ў Эўропу і Амэрыку — разам з дабрачыннымі місіямі выяжджае ў Беларусь, у самыя "радыеактыўныя" раёны. Мінулым летам ён падвозіў нас неяк на сваім мікрааўтобусе і апавядаў прыкладна так: "Мы маглі зьехаць, нялёгка было, шасьцёра дзяцей, але мне было прароцтва, каб я застаўся ў Вільні — і я застаўся, вельмі добра цяпер жыву — ня тое што нястачы няма, але й іншым магу дапамагаць".

У Вербную нядзелю на набажэнстве абвясьцілі: яшчэ адна сям'я зьяжджае. Усе ўсталі памаліцца за шчасьлівы пераезд.



Малітва за дзіця.

## Хрысьціянская царква

У нас цяпер час спасьціжэньня таленрацыі, афіцыйная атэістычная прапаганда як бы і адыйшла ў гісторыю, але... Я думаю нават не пра варожасьць праваслаўнага і каталіцкага кліру да пратэстантаў (вядома, існуюць і выключэньні), не пра тое, што, напрыклад, усе прапановы Біблейскага каледжу, які працуе пры пяцідзясятніцкай царкве (дырэктар Іван Шкуль), супрацоўнічаць са школамі былі адхіленыя (хоць гаворка была толькі пра знаёмства дзяцей зь Бібліяй), — не, нават не пра гэта я ўзгадала. Вось просты факт з дадзеных сацыялягічнага досьледу сярод старэйшых клясаў адной віленскай сярэдняй школы (1996 г.). Паводле адмысловай мэтодыкі (табліца Багардуса), высьвятлялася стаўленьне школьнікаў да людзей, непадобных да так званага сярэдняга чалавека. Прыкладна трэціна рэспандэнтаў пазначылі, што не згадзіліся б узяць шлюб ці нават сябраваць з "глыбокім вернікам". Там не акрэсьлівалася канфэсія, ня меліся на ўвазе, напрыклад, канкрэтныя пратэстанцкія плыні. Проста —"глыбокія вернікі". Вучні часта больш станоўча ставіліся да "тых, хто падазраецца ў крадзяжы" — зь імі ўмоўны шлюб быў магчымы. У нейкім сэнсе і гэта — прыклад талеранцыі.

А між іншым гэтыя школьнікі гадаваліся ўжо ў "вольных" умовах. Асьцярога ці непрыхільнасьць да рэлігійных людзей трымаецца як бы сама па сабе альбо перадаецца ад бацькоў ці старэйшых. Маўляў, хто іх ведае, гэтых вернікаў... І сапраўды, мала ведаюць альбо ведаюць няпраўду. Ва ўяўленьні людзей часта словы "вернік" ці "глыбокі вернік" атаясамліваюцца з эвангельскімі хрысьціянамі. І — адпаведны цэтлік.

У аповедзе пра канкрэтную Віленскую эвангельскую царкву можна было б, пэўна, апісаць шчырасьць набажэнстваў, памяркоўнасьць пастараў, глыбокую прастату казаньняў, незвычайныя магчымасьці сумоўя, юнацкія і дзіцячыя лецішчы, якія ладзяць пяцідзясятнікі, нядзельную школу, канцэрты сучасных хрысьціянскіх гуртоў, хор і сьпевы пад гітару духоўных гімнаў, выступы місіянэраў, шчодрую дапамогу багацейшых братоў бяднейшым (і асабістую, і агульную), апісаць прасьветленых, адухоўленых людзей — біскупа, пастараў і прапаведнікаў, братоў і сёстраў. Пасьля набажэнстваў людзі падоўгу застаюцца разам — мужчыны размаўляюць пра гаспадарчыя справы, жанчыны гавораць пра сям'ю, разглядаюць сямейныя фотаальбомы — чыйсьці сын пайшоў у школу, чыясьці дачка ўзяла шлюб... Далей можна было б распавесьці пра Віленскі Тэалягічны Каледж, пра Аб'яднаньне Хрысьціянаў Эвангельскай Веры, пра эвангелізацыю і абуджэньне новых цэркваў... Аповедам пра царкву магло б быць слова пра Бога. Але пра гэта лепей паслухаць пастара, сьвятара. І чытаць Біблію.

*** першая згадка ў друку — 1927. У Літве першая падобная царква зьявілася ў 1906 годзе ў Біржах (заўвага аўтаркі).*



Абрад хрышчэньня.

# Не пра ўсіх беларусаў

***Беларусы: У 8 т. Т.1: Прамысловыя і рамесныя занятки / Рэдкал.: В.Бандарчык, М.Піліпенка, В.Цітоў. — Менск: Навука і тэхніка, 1995. — 351 с. ISBN 5-343-01355-4***

Беларусы дачакаліся новага манумэнтальнага выданьня пра сябе. У дачыненьні да гэтае кнігі слова "манумэнт" мае значэньне "надмагільны помнік", бо гутарка ў ёй ідзе пра тое, чаго амаль ужо няма — пра традыцыйныя рамёствы і промыслы.

Нягледзячы на грандыёзнасьць задумы, паліграфічна кніга выйшла на "сярэднім савецкім" узроўні. У нашых суседзяў нават звычайныя кнігі друкуюцца лепей. Балотна-зялёнага колеру супэрвоклалка таксама яе не ўпрыгожвае.

Гэтая кніга — першы том этнаграфічнага васьмітомніка, і, як мае быць, тут зьмешчаны ўводзіны да ўсяго выданьня, дадзены ягоны плян: том пра паходжаньне й этнічную гісторыю беларусаў; сям'ю і сямейны побыт; гісторыю беларускай этнаграфіі; матэрыяльную і духоўную культуру; грамадзкае жыцьцё; вытворчую дзейнасьць; сродкі і шляхі зносінаў. Праўда, не растлумачана, чаму "Прамысловыя і рамесныя заняткі" зьявіліся першыя. Напэўна першы мусіў выйсьці том пра паходжаньне беларусаў. Тады б чытач даведаўся пра храналягічныя рамкі ўсяго выданьня, крыніцы дасьледаваньняў, суадносіны матэрыялаў аб этнаграфіі беларусаў і іншых этнасаў нашай краіны.

Ва ўводзінах заяўлена, што ў аснову гэтай кнігі пакладзеныя матэрыялы XIX і XX ст., і гэта ўвогуле падмацоўваецца зьместам. Толькі аўтар разьдзелаў пра рыбалоўства, паляўніцтва і пчалярства С.Цярохін шырока выкарыстаў матэрыялы са старажытных часоў да XVIII ст. (дарэчы, убрыкнуць каталіцтва і прадэманстраваць веданьне Гегеля ён мог бы і ў іншым месцы). На жаль, астатніх аўтараў гэтага тому старажытныя часы асабліва не зацікавілі.

Кніга вытрымана ў традыцыйным для савецкай беларускай этнаграфічнай навукі духу — гэта апісаньне жыцьця беларусаў пераважна сельскай мясцовасьці за апошнія сто гадоў. Матэрыялы археолягаў (іх "людзбімы" пэрыяд — да XVI ст.) і гісторыкаў фэадалізму ("іх" перыяд — XVI — I-я палова XIX ст.) закранутыя настолькі павярхоўна, што лепш было іх увогуле не кранаць. Міждысцыплінарнага прарыву ў гэтай працы не атрымалася. Дарэчы ў Польшчы ёсьць цэлы часопіс "Квартальнік гісторыі матэрыяльнай культуры", дзе заняткі люду прасочваюцца са старажытнасьці да сёньня без падзелу на археалёгію, гісторыю і этнаграфію.

У выдадзенай працы дарэмна шукаць зьвесткі пра рамесныя заняткі жыдоў, цыганоў, татараў і расейцаў у Беларусі. Магчыма таму, што выданьне называецца "Беларусы"? Пэўнай цяжкасьцю для аўтараў стала вызначэньне "рамяства" і "промысла", часам яны зьбіваюцца на палітэканамічныя тэрміны. Аўтар уводзінаў увогуле ўхіліўся ад разгляду таго, што ж такое промыслы, і проста пералічыў, што ён пад імі разумее. Дарэчы, тут пералічаныя некаторыя заняткі, якія ў кнізе зусім не разглядаюцца. Калі гэты сьпіс працягнуць, то ў кнізе чытач ня знойдзе зьвестак пра вытворчасьць воску, шкла, будаўнічай керамікі (цэглы, кафлі, дахоўкі), жалеза, вырабаў з каляровых мэталаў, каменячосную справу, апрацоўку косткі. Затое шмат зьвестак пра розныя павозкі, сані, рачныя судны, плыты — хоць усё гэта павінна быць у апошнім з заяўленых тамоў сэрыі. Пра кафлю аўтар адпаведнага разьдзелу даў адзін сказ: у XIX — I-й палове XX ст. яна страціла нацыянальную спэцыфіку, — значыць, пісаць няма пра што! Недасьведчанасьць у старажытным ганчарстве прывяла да зьяўленьня кур'ёзнай "палеалітычнай керамікі". Між тым пачатак керамічнай вытворчасьці зьяўляецца найважнейшай адзнакаю нэаліту.

А былі ж у беларускай этнаграфічнай навуцы дасьледаваньні ў асобных галінах рамёстваў і нават асобная невялікая кніга "Промыслы і рамёствы беларусаў". Выдадзены важкі том іх не пераўзышоў. Пачакайма яшчэ колькі гадоў, можа, зьявіцца выданьне, дзе беларусамі будуць лічыць ня толькі сялянаў XIX-XX ст., але й местачкоўцаў, і мяшчанаў, і гараджан скрозь з XIII (а можа, і раней) да XX ст.

Валеры Пазьнякоў

## НОВЫЯ КНІГІ І ПЭРЫЁДЫКІ, ПРЫСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

ЛІТАРАТУРА ФАКТУ

**Алексютовіч Л.К. Беларускія народныя полькі.** – Менск: Беларусь, 1995. – 143 с., іл. ISBN 985-01-0127-Х. 3.000 ас.
Кніга прысьвечана гісторыі ўзьнікненьня й разьвіцьця полькі як жанру, падаюцца апісаньні больш за 40 варыянтаў танцу.

**Беларусіка = Albaruthenica.** Кн 5. Культура беларускага замежжа; беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненьні / Пад рэд. У.Конана, А.Мальдзіса. – Менск: Навука і тэхніка, 1995. – 359 с. ISBN 5-343-01571-9. 700 ас.
Працяг нізкі публікацыяў Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Ф.Скарыны й Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

**Гісторыя Беларусі.** Навучальны дапаможнік. – Менск: НПЧ "Фінансы, улік, аўдыт", 1996. 298 с. 10000 ас.
Зборнік скіраваны на засваеньне дакладных зьвестак: фактаў падзеяў, тэрмінаў, даецца разгляд характэрных экзамэнацыйных пытаньняў. Гэта другое, дапоўненае і дапрацаванае выданьне для ВНУ, каледжаў, ліцэяў, гімназіяў і школаў.

**Говард Майкл. Сучасная культурная антрапалёгія** / Пер. з анг. І.Карпікава, М.Раманоўскага, А.Шыманскага; Пад рэд. П.Церашковіча. – Менск: Тэхналёгія; Беларускі Фонд Сораса, 1995. – 478 с. – (Сэрыя "Адкрытае грамадзтва"). ISBN 985-6022-16-9. 2.000 ас.
Гэты ўнівэрсытэцкі падручнік сыстэматызуе сацыяльныя, сымбалічныя ды матэрыяльныя аспэкты жыцьця сучасных грамадзтваў. Асаблівая ўвага надаецца праблеме зьнікненьня малых супольнасьцяў, адаптацыі людзей да чужой культуры, дэградацыі навакольнага асяродзьдзя.

**Другі Міжнародны Кангрэс у Абарону Дэмакратыі і Культуры "Незалежная Прэса: Свабода і Адказнасьць"**: Тэксты. Дакумэнты. Матэрыялы. – Менск: Тэхналёгія, 1996. 560 с.

**З глыбіні вякоў. Наш край:** Гіст.-культураляг. зборнік. Вып.1. – Менск: Навука і тэхніка, 1996. – 288 с., іл. ISBN 5-343-01480-1. 500 ас.
Кніга, складзеная яшчэ ў 1993 г., выйшла толькі ў 1996 г. Гэта зборнік навуковых артыкулаў з галіны гісторыі матэрыяльнай культуры ў Старажытнай і Сярэднявечнай гісторыі Беларусі. Тэматычнасьцю й маштабнасьцю вылучаецца матэрыял В.Насевіча й М.Сьпірыдонава ""Русь" у складзе Вялікага княства Літоўскага ў XVI ст."

**Каталёг паштовых марак Рэспублікі Беларусі.** – Менск: ДП "Менская пошта", 1996. 28 с.

**Нестеренко В.Б. Масштабы и последствия катастрофы на Чернобыльской АЭС для Беларуси, Украины и России.** – Менск: Права і эканоміка, 1996. 72 с. ISBN 985-6194-24-5. 500 ас.

**Чарнобыль. Погляд праз дзесяцігодзьдзе:** Даведнік / Рэд. калегія: Л.Малашэвіч і інш. – Менск: БелЭн, 1996. 319 с., іл. ISBN 985-11-0044-7. 5000 ас.
У кнізе, што прымеркаваная да 10-годзьдзя катастрофы, прадстаўленыя найбольш істотныя яе наступствы для Беларусі. Шэраг аналітычных артыкулаў аб'яднаныя ў тэматычныя разьдзелы.

МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

**Геніюш Л. Ад родных ніў.** Вершы. – ТАА "Альгерд", 1995. – 155 с., іл. 3.000 ас.
Факсыміле праскага выданьня 1942 г.

**Чаропка В. Перамога ценю:** Аповесьці, апавяданьні, эсэ. – Менск: Мастацкая літаратура, 1996. – 270 с. ISBN 985-02-0017-0. 4000 ас.

**Хрустальны калодзеж:** казкі народаў Еўропы: Для дашк. і малод. шк. узросту. / Пер. на беларускую мову В.Гардзей; мастак В.Тарасаў. – Менск: Юнацтва, 1996. – 367 с.: каляр. іл. –(Б-ка замежнай дзіцячай літаратуры). ISBN 985-05-0109-Х. 6.000 ас.

ПЭРЫЁДЫКІ

**Bialoruskie Zeszyty Historyczne**. 1995, №2(4). – Bialystok: Bialoruskie Towarzystwo Historyczne. 218 с.

**Форум.** Інфармацыйна-культурны бюлетэнь. 1996. №3. – Менск: Эўрафорум. 64 с.

## КНІГА — ПОШТАЙ

**На складзе Фонду "Наша Ніва" маюцца кнігі:**

**1. Адам Глёбус. Толькі не гавары маёй маме...** Зборнік інтымнае прозы. — Менск: Сучасная літаратура, 1995. — 310 с.
Кнігі новай сэрыі "Сучасная літаратура" разьлічаныя на поўную самаакупнасьць. Займальныя сюжэты, даверальны тон, даступнасьць — характарыстыкі гэтай сэрыі.
41.000 БРБ

**2. Адам Глёбус. Скрыжаваньне.** — Менск: БАДППР — "Ковчег", 1993. — 46 с.
Апошні зборнік вершаў Адама Глёбуса. Многія з гэтых тэкстаў сталі агульнавядомымі песьнямі, многія перакладаліся на розныя мовы.
7.000 БРБ

**3. Энтані Сміт. Нацыяналізм у дваццатым стагодзьдзі.** — Менск: БФС — "Эўрафорум", 1995. — 272 с.
Кніга прысьвечана шматлікім трансфармацыям нацыяналізму ў нашым стагодзьдзі, параўнаньню яго з такімі ідэалёгіямі "выратаваньня сьвету", як камунізм, фашызм і расізм.
20.000 БРБ

**4. Джын Эйчысан. Гаваркія істоты:** Уводзіны ў псыхалінгвістыку. — Менск: БФС — "Кліч", 1995. — 312 с.
Псыхалінгвістыка — новая галіна ведаў. Дасьледаваньне прысьвечанае аналізу таго, што ў нашай мове зьяўляецца вынікам навучаньня, а што мае біялягічныя перадумовы.
20.000 БРБ

**5. Юліяна Вітан-Дубейкаўская. Мае ўспаміны.** — Вільня, 1994. — 192 с.
Гісторыя ахвярнага каханьня набожнай жанчыны і безнадзейна хворага мужчыны. Яна — дачка віленскага купца немца Юліяна Мэнке, ён — беларускі палітык і антыквар Іван Луцкевіч.
29.000 БРБ

**6. Баляслаў Лесьмян. Пан Блішчынскі** / Пераклад з польскай. — Вільня-Менск: "Наша Ніва" — "Мастацкая Літаратура", 1994. —93 с.
Клясык польскай паэзіі Баляслаў Лесьмян (1878-1937) стварае маляўнічы й зваблівы сьвет інтымных перажываньняў чалавека.
17.000 БРБ

**7. Вітаўт Кіпель. Беларусы ў ЗША.** — Менск, 1993. — 352 с.
У кнізе беларускага эміграцыйнага дасьледніка ўсебакова разглядаецца гісторыя і сёньняшні дзень беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах Амэрыкі.
29.000 БРБ

**8. Беларускі рок-н-рол:** Тэксты ("Бонда", "Крама", "Мроя", "Новае Неба", "Уліс"). — Менск: "Ковчег", 1994. — 64 с.
7.000 БРБ

Каб атрымаць патрэбную Вам кнігу, трэба пералічыць указаную суму грошай на адрас: Андрыеўскі Андрэй Паўлавіч, Менск 220094, а/с 89. Не забудзьцеся падаць свой адрас.

## КНІГА — ПОШТАЙ

**Рэдакцыя часопіса "Калосьсе" прапануе наступныя выданьні:**

**1. Калосьсе, №1-1993.** — 60 с.
У нумары зьмешчаныя творы Юрася Пацюпы, Леры Сом, Ігара Сідарука, Алеся Аркуша, Юрыя Гуменюка, Кастуся Гаманца і іншых, успаміны Андрэя Чэмера і Анатоля Іверса пра віленскае "Калосьсе" 30-х гадоў і ягонага рэдактара Янку Шутовіча.
10.000 БРБ

**2. Калосьсе №2-3-1995.** — 144 с.
Творы Хведара Ніцкі, Славаміра Адамовіча, Вінцэся Мудрова, Ігара Сідарука, Алены Шаціпы, Васіля Крохвы, першая кніга "псыхадэлічнага" рамана Юрыя Гуменюка "Апосталы Нірваны".
25.000 БРБ

**3. Вінцэсь Мудроў. Жанчыны ля басэйна.** — Менск: Мастацкая літаратура, 1992. — 160 с.
Першы зборнік прозы аднаго з "дыназаўраў" сучаснага беларускага андэграўнду.
15.000 БРБ

**4. Юры Гуменюк. Твар Тутанхамона.** — Полацак: Полацкае ляда, 1994. — 52 с.
Другі паэтычны зборнік паэта-постмадэрніста, вершы: "Прагулянка маркіза дэ Сада", "Гарэлкі поўны капялюш", "Фанэра над Парыжам", "Сьлімакі" ды іншыя.
10.000 БРБ

**5. Алесь Аркуш. Разьтаньне з Танталам.** — Полацак: Полацкае ляда, 1994. — 54 с.
Зборнік вершаў, пострамантызм, "нешта больш салодкае за Рай і страшнейшае за Пекла — блуканьне па кругах уласнае душы. Самастойна. Без Вэргілія" (Алена Шаціла).
10.000 БРБ

**6. Ігар Сідарук. Саната Арганата.** — Полацак: Полацкае ляда, 1994. — 64 с.
Ненармаваная лексыка, жудасныя сюжэты, "любошчы".
10.000 БРБ

**7. Лявон Вольскі. Калідор.** — Полацак: Полацкае ляда, 1993. —38 с.
Зборнік паэзіі, які вядомы паэт-рокер напісаў у адзінаццаці інастасях.
10.000 БРБ

Каб атрымаць патрэбную Вам кнігу, пералічыце названую суму грошай на адрас: Алесь Козік, Наваполацак-11, п/с 36. Не забудзьце падаць свой адрас.

## КАСЭТЫ — ПОШТАЙ

**На складзе Фонду "Наша Ніва" ёсьць на продаж касэты з запісамі беларускіх музыкаў:**

1. **НОВАЕ НЕБА. Сон у трамваі:** Сон у трамваі; Выбар; А ты забудзь маё імя; Жахлівая прыгажосьць; Дом; Калыханка; Таму што; Той, хто стаіць у мяне за плячыма.
2. **НОВАЕ НЕБА. Go home (1995):** Прэзыдэнт, ідзі дамоў; Дакраніся да вады; Падае сьнег; Крот-2; Электарат; Цемра; Выгнаны сын; Канцэрт у Westclub 7 сакавіка 1995 г. (Жывы гук).
3. **КРАМА. Хворы на Rock-n-Roll:** Бяжы, хлопец; Здраднік; Хворы на рок-н-рол; Выпі са мной да дна; Чыкага найтс; Каханьне а шостай гадзіне; Стэфаніда; Мне мой сябра сказаў; Новая кроў; Будзь разам з намі.
4. **N.R.M. LaLaLaLa (1995):** Белыя лебедзі; Нацыя; Дарога; Мітусьня; Не хадзіце ў цёмны лес (Зомбі); Бацька; Трактар; Дзе тое слова; Дайце; Бывай; Лалалала; Халі-галі.
5. **ULIS. Life (1996):** Як плынь ракі; У вагні; Паходная; Па-над дахамі; Залаты ланцуг; Аднойчы; Пачвара; Усё было недарэчы; Альбо бывай; Па калідоры; Астатні цягнік; Усё альбо нічога; Цмок, каралева.
6. **БОНДА. Найлепшыя песьні:** Не сьпяшайся; Ліст дадому; Слуцкая брама; Кожны з нас; Падарожжа; Блюз; Вынаходнікі; Стэфка; Соль жыцьця; Раз-пораз...
7. **РЭНЭСАНС (беларускі джаз);** Sensation; Dippermouth Blues; Solitude; Medley: Hello, Dolly, Black Eyes(trad tune), Mack the Knife; Tin Roof Blues; Panama; St.James Infirmary (trad. tune); Mikita (Belarusian folk song); Washington and Lee Swing; Finish Polka (trad. tune); Memfis Blues; High Society; Basin Street Blues; Russian Dance Tune; I've Founde a New Baby; Tiger Rag.
8. **БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КАЗКІ:** Коцік Петрык і мышка; Пра што кукуе зязюля; Пых; Сынок з кулачок; Коцік, пеўнік і лісіца; Пшанічны каласок; Дзедава рукавічына; Пра падчарку; Пра старога ката; Як баба гуся прадавала; Сіняя сьвіта.
9. **РОК СУПРАЦЬ РЭВАЛЮЦЫЯЎ** ("Новае неба", "Зіндан", "Уліс", "Мроя", "Крама").
10. **БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА (1-3)**

**Фонахрэстаматыя, т.1:** Беларускія канты; Песнапеньні пра Ефрасіньню Полацкую; Музыка невядомага аўтара XVIII ст. на вершы Сымона Полацкага; Помнік музычнай культуры Беларусі XVI-XVII ст. "Полацкі сшытак"; Мацей Радзівіл. Дывэртысмэнт у трох частках; Яган Давід Голянд (лібрэта М.Радзівіла). Опэра "Агатка, або прыезд Пана" (1784 г.); "Нясьвіская мэса" 1730 г. (фрагмэнт); Тадэвуш Касьцюшка (1745-1817). Палянэз; Восіп Казлоўскі (1757-1831); Міхал Клеафас Агінскі (1765-1833). Паланэз Фа мінор, Паланэз Ля мінор "Разьвітаньне з Радзімай"; Міхал Казімер Агінскі (1730-1800). З сшытка рамансаў "Да Касі"; Эрнэст Ванжура. Увэртура да балетнай пантамімы "Арлекін-нявольнік".

**Фонахрэстаматыя, т.2:** Л.Шлег (сл. народ.). Лубок; Д.Смольскі. Канцэрціна для сола скрыпкі і аркестру; Э.Казачкоў. Увэртура для духавога аркестра; Рафаіл Вардоцкі. Аполён-заканадаўца, лібрэта М.Цяцерскага.

**Фонахрэстаматыя, т.3:** А.Бандарэнка, сл. Мітрапаліта Кіеўскага Іларыёна. Пахвала Вялікаму князю Ўладзімеру Сьвятаслававічу; А.Мдзівані (сл. народн.). Гусялькі; А.Багатыроў. Маладыя гады; В.Войцік. Сюіта ў старадаўнім стылі для цымбалаў; М.Чуркін. Калыханка для скрыпкі і ф-на; Л.Мурашка. Саната для фартэпіяна.

Для атрыманьня адной касэты неабходна даслаць 20.000 руб. на адрас: 220094 Менск, а/с 89, Андрыеўскаму Андрэю Паўлавічу. Не забудзьцеся падаць Ваш адрас.

НАША НІВА 6 траўня 1996 №8(46)

# Тацяна Сапач



ВЕРШЫ З ПАДАРОЖЖА

.....
Не ад'яжджай у мілы край,
дзе наша права,
дзе верaць, што жывы,
калі ўміраеш... —
я ведаю і так, што ты жывы,
ня едзь ні назаўжды, ні
накаротка,
дзе роўна ўсё усім — ці што, ці хто ты,
абы цішэй вады, ніжэй травы.

Я так люблю той край, дзе наша месца,
што мушу і сама туды паехаць,
але цябе прашу — не ад'яжджай.
Я там памру, каб ведалі — жывая,
мяне пад злой ігрушай пахаваюць —
тады адведай зрэдку родны край.

.....
Той бераг, ці Brzeg, ці krantas
ёсьць, незалежна ад мапаў,
далёка ад Вільні, за Ўроцлавам,
ад цябе — і далёка, і блізка.
Пакой для спатканьняў — ноч,
падлога — золата восені
і дзёрзкае срэбра крылаў
берагавых кірляў.
А столь — высока-высока,
і месяц ашчадна сьвеціць...
Аздобу сьценаў
не пасьпяваеш разгледзець,
бо нечакана робіцца рана, —
і мы пакідалі пакой для спатканьняў,
і ён зачыняўся на ключ.
... Цягнік аддаляе Brzeg —
бераг, ці берег, ці krantas.
Зьмяняе музыку руху
антракт перасадкі — да Вільні.
То сплю, то палю, то ціха
сьпяваю рускую песьню,
і забываю патроху,
як моцна цябе люблю.

# Ігар Бабкоў



ДВА ВЕРШЫ ПРА СЬМЕРЦЬ

.....
Калі восені рудыя косы
Разьвінаюць, і музыка грае
Уначы абуджаецца сэрца:
Сьмерць-катрынка тужліва сьпявае

Варажбітка, сьляпая марока
Пакідае нязводныя плямы
Вецер лісьце апалае гоніць
Да далёкай, зімовае брамы

Й незагойна, у восеньскім шале
Ўсё кранае нацятыя струны
Нібы ластавак доўгія веі
Ці халодныя, цёмныя руны

.....
Усё той жа сон
Нас зноўку прагне сьмерць:
Так матылёк імкнеца да сьвятла
Прысутнасьці адпрэчаны пагляд
Блукае сярод рэчышча тугі
Прысутнасьці, што некалі была
Шалёнай смагай, а цяпер, здалёк
Заве ахрыплым голасам цыкад
Трызьненьнем, што шукае берагі



*Уладзімер Арлоў*

# Экспэдыцыя

У цэнтры Бэрліну грубка гудзе ўзімку гэтаксама ўтульна, як і ў полацкім доме майго дзяцінства, дзе я яшчэ ня піў "Белавескай", ня быў знаёмы з прафэсарам Норбэртам Рандавам і ня ведаў, што такое "интимная подруга".

Калі вам яшчэ не даводзілася гартаць сваё дасье, працягвайце клапаціцца пра яго папаўненьне й зайздросьце майму гаспадару, які прапануе тост за пасьпяховае завяршэньне знаёмства з уласным жыцьцяпісам паводле вэрсіі штазі.

1200 старонак зь дзевяці пульхных буйнафарматных тамоў, створаных вялікім калектывам аўтараў адразу на некалькіх эўрапейскіх мовах, ксэракапіяваныя для фамільнага архіву. Перабіраючы іх у пошуках кірыліцы, я змагаюся з затоеным страхам высмыкнуць раптам старонку з знаёмым почыркам.

Значную частку кірылічных тэкстаў складае ліставаньне начальнікаў аддзелаў міжнародных сувязяў міністэрстваў дзяржбясьпекі ГДР і НРБ таварышаў Дзімітра Міцева і Вілі Дама. Вось першы таварыш (зь нязьменным "социалистическим приветом") паведамляе другому, што, прыбыўшы ў НРБ (вольнасьцяў накшталт проста Балгарыі не дапускаецца), Н.Рандаў першым чынам "отклонил наше предложение остановиться в студенческом общежитии под предлогом, что условия являются недостаточно подходящими для его интимной подруги Теды, гражданки Западного Берлина, заявляя, что она — его супруга", а потым неадкладна заняўся варожай дзейнасьцю, у прыватнасьці, "поделился мыслями, что в ГДР было поставлено кофе плохого качества и немецкий народ впервые за 20 лет был готов подняться на бунт". Пасьля гэтай шкодніцкай вылазкі "объект" так разыйшоўся, што паведаміў "источнику", нібыта "настоящая литература не должна рассчитывать на публику и успех, а должна твориться тихо, ради самой себя и во имя будущего". (Можна выказаць асьцярожнае меркаваньне, што таварыш "источник" наўрад ці быў дворнікам або сантэхнікам.)

Дам расейскай моваю валодаў горш і, магчыма, таму любіў карыстацца тэлеграфам. Урэшце, і клопатаў ён меў непараўнальна болей: трэба было вывучаць рэляцыі стукачоў з турмы, дзе малады Рандаў сядзеў тры гады за прапаганду "Доктара Жывага" і іншыя злачынствы; учытвацца ў справаздачу зь дзён нараджэньня "объекта" з дакладным указаньнем гадзіны й хвіліны прыходу і адыходу кожнага госьця; аналізаваць паведамленьні таварышаў зь Беларусі, дзе Рандаў замест таго, каб жлукціць на навукова-літаратурных банкетах гарэлку, знаўся з падазронымі тыпамі, якія салідарызаваліся зь ім у тым, што "интеллектуалов преследовали не только сегодня, но и всегда — такова их судьба".

Сярод карэспандэнтаў тав. Дама сустракаліся нейкія тав. Штэфан, а таксама баец нябачнага фронту, які падпісваўся: Паэт. Самае пікантнае, што гэта сапраўды быў паэт ці, прынамсі, чалавек, што пісаў і друкаваў свае вершы. (NB для айчынных перакладчыкаў: Паэта звалі Паўль Вінц.)

Мой унутраны ляндшафт пачынаюць аздабляць мілыя вобразы роднага краю: праспэкт Ф.Скарыны, жоўты дом з калёнамі, бэльвэдэрам і некалькімі (як апавядаюць абазнаныя людзі) падземнымі паверхамі, шматкіляметровыя стэляжы з дыхтоўна пераплеценымі тамамі, якія раз-пораз здымае ў мяккім люмінэсцэнтным сьвятле мужчынская ці жаночая рука з доўгімі вільготнымі пальцамі.

Мы з Норбэртам не выключаем, што ў гэты самы момант таварышы Дам і Міцеў сядзяць каля каміну недзе ў Маскве ці ў Карлавых Варах (а можа, у Менску?) і смакуюць што-небудзь больш вытанчанае за нашую "Белавескую".

❑

Мая заходнебэрлінская знаёмая, якая нарадзілася ў сям'і нямецкага каляніста ў Паўднёвай Афрыцы і лічыць найвялікшай у сьвеце каштоўнасьцю падарожжы, зьбянтэжана прызнаецца: ні ў Беларусь, ні, тым больш, у Расею яна пакуль не паедзе. Я непатрыятычна ўдакладняю, што назвы краінаў варта было б памяняць месцамі.

❑

На ранішняй прагулянцы спатыкаю бабулечку-"божы дзьмухавец", якая аказваецца ўдавою правадыра нямецкага народу Вальтара Ульбрыхта. Нічога трансцэндэнтнага тут няма, бо нас з паэткаю Нінай Мацяш пасялілі на былой віле яшчэ аднаго героя камуністычных энцыкляпэдыяў тав. Ота Гротэволя. Некалі ў гэтыя зацішныя кварталы ўсходнебэрлінскага раёну Панкаў траплялі толькі празь некалькі шлягбаўмаў.

Цяпер схаваныя за шлягбаўмамі таямніцы пакрысе выбіраюцца на белы сьвет. Напрыклад, муж гэтай дзевяностагадовай бабуленцыі, якая жыве побач з намі на Маякоўскірынг, пачынаў партыйную кар'еру з таго, што займаўся сутэнёрствам.

Пачатак кар'еры Норбэрта Рандава таксама, хоць і па-іншаму, уражвае: у 1958-м ён быў перакладчыкам у часе візыту Тодара Жыўкава ў сацыялістычную Нямеччыну. Візыт адбываўся за пару тыдняў да прэзыдэнцкіх выбараў у Францыі. Ульбрыхт палічыў патрэбным падзяліцца палітычным прагнозам адносна абраньня генэрала дэ Голя: "Францускі народ ніколі не пагодзіцца, каб ім кіраваў гэты авантурыст". Жыўкаў дыпляматычна перавёў гаворку на авечкагадоўлю.

"Ульбрихт был просто дурак", — па-расейску рэзюмуе сваю згадку былы партыйна-ўрадавы перакладчык, які ў тыя часы, нагледзеўшыся на правадыроў, ужо пачытваў заміж клясыкаў марксізму розныя сумнеўныя кніжэнцыі.

❑

На нашых літаратурных чытаньнях бэрлінскія інтэлектуалы адказваюць на паведамленьне пра беларускі пераклад "Парфумы" Патрыка Зюскінда іранічнымі ўсьмешкамі. Каму яны адрасаваныя — аўтару бэстсэлера ці беларускім перакладчыкам — застаецца загадкаю.



❑

Сёньня я ўрачыста даю сабе слова, што, трапіўшы ў Ірляндыю, абавязкова знайду Нуалу Ні Гональ, паэтку, якая дала "The New York Times Book Review" інтэрвію, толькі што прачытанае ў "НН".

"Калі пра што й варта пісаць, дык адно пра нешта вялізнае: нараджэньне, сьмерць ды пра найважнейшае, што стаіць паміж імі — сэкс".

"Нас прымушаюць прыйсьці да іранічнай высновы, што калі мы памрэм, спакойна ўздыхнуць тыя, хто адчувае сябе няёмка ў сваёй ірляндзкасьці, пакуль існуе жывая моўная традыцыя, да якой яны не належаць".

Я самаўпэўнена думаю, што ўжо двух гэтых пасажаў з інтэрвію хопіць на тое, каб нам разам з Нуалай не было сумна.

Знаёмства я мог бы пачаць з таго, што ў яе прыгожае імя, якое — зусім па-беларуску — вільготна пахне затокаю, аерам і русалкамі, а калі б мы пасябравалі, я аднойчы насьмеліўся б назваць яе Нуалкай і прапанаваў бы паслухаць, як гучыць па-наску яе гэльскі верш з знарочыста казённаю назваю "Моўнае пытаньне", чые шапатліва-зялёныя вобразы закалыхваюць мяне ў гэты вечар на былой віле тав. Гротэволя: "Я пускаю сваю надзею на ваду / у маленькім чаўне мовы / нібы кладу дзіця / у калыску..."

❑

На пытаньне, ці быў ён у Хатыні, Норбэрт Рандаў адказвае, што паедзе туды, калі мы пабудуем мэмарыял у Курапатах.

❑

Перад літаратурнаю вечарынай у паўночнанямецкім гарадку Нойштрэліцы цяжка ўявіць хоць аднаго немца, які адкладзе свае справы дзеля сустрэчы з двума літаратарамі з краіны, дзе расстрэльваюць спартовыя паветраныя шары, а прэзыдэнт дае інтэрвію з прызнаньнямі ў сымпатыях да партайгеносэ Адольфа Гітлера.

Аднак, магчыма, якраз апошнія акалічнасьці і зьбіраюць у залю большую частку публікі.

А, магчыма, і не. Бо гарадок некалі быў сталіцаю вялікага герцагства, а каля герцагаў музы водзяцца, як вядома, крыху часьцей, чым, прыкладам, каля графаў.

Гарадзкому тэатру з балетнай і драматычнай трупамі 250 гадоў. Яшчэ нядаўна ў партэры часта бачылі савецкіх афіцэраў: на 25 тысячаў жыхароў прыпадала роўна столькі ж таварышаў па зброі з усходу. Здаецца, гэтае суіснаваньне мела досыць мірны характар. Калі дэлегацыя гораду наведала новае месца дыслякацыі выведзенай у Расею дывізіі, яе камандзір падшафэ прызнаўся, што хоча, каб на яго надмагільным помніку апрача датаў нараджэньня й сьмерці было таксама напісана: "жыў" і стаялі даты службы ў Нойштрэліцы.

Гісторыя выглядае вельмі мілаю, калі забыць, колькі калегаў сэнтымэнтальнага расейскага камдыва дагэтуль мрояць пажыць у такіх утульных гарадках — калі не ў нямецкіх або чэскіх, дык, на горшы выпадак, хоць у беларускіх ці ўкраінскіх.

❑

У Нямеччыне таксама надараюцца дні, самай істотнай падзеяй якіх застаецца ўбачаны ў TV фільм пра агента 007.

❑

На вокладку апошняга нумару гановэрскага часопісу "Textura" вынесеныя імёны дзесяці беларускіх літаратараў. Ніна Мацяш сьпявае на прэзэнтацыі сваю "Калыханку для мамы". Сівенькая фраў у першым шэрагу выцірае вышыванай хусьцінаю сьлёзы. Ружавашчокі мужчына з аблічам тыповага задаволенага жыцьцём і півам бюргера рэагуе больш непасрэдна. Ён падыходзіць да стала й пачынае дэклямаваць: "На ніцях белай павуціны / Прывозяць восень павучкі..." Потым пяе "Лявоніху" і завяршае імправізаваную літаратурна-музычную кампазыцыю вершам Янкі Купалы пра вялікага Сталіна. Спадар Ітман нарадзіўся ў 30-я гады пад Празарокамі і скончыў чатыры клясы беларускае школы.

... Калі мы спаткаемся ў Дубліне з Нуалай Ні Гональ, я раскажу ёй, што ў Гановэры ёсьць цалкам прыстойны ірляндзкі паб зь півам "Guiness" і наіўны прафэсар Хюпэр, які спадзяваўся дзякуючы мне ўдасканаліць сваю ангельскую мову.

❑

Размаўляць з нашай перакладчыцаю паэткаю Эльке Эрб па-расейску — суцэльная асалода. "Эльке, как называется эта река?" — "Не знаю. Я с ней не разговариваю".

Беларускія тэксты Эльке перакладае з падрадкоўнікаў, але часам яе вабяць арыгіналы і тады нашы дыялёгі робяцца яшчэ больш забаўныя. "Прайшла гадзіна, — чытае яна і адрывае ад старонкі зьдзіўленыя вочы. — Володя, как может пройти гадина, если она не имеет ноги?"

Прыкладна так узнаўляе беларускі тэкст і мая суседка зь Серабранкі, толькі яна нічому не зьдзіўляецца, а грэбліва падціскае вусны: "Как всё грубо... Цырульня, гарбата... Это от слова "горб"? — "А ваша парикмахерская это от слова "хер"? — далікатна высьвятляю я.

❑

У бэрлінскім Далемскім музэі найцікавейшымі для

# №4

мяне нязьменна застаюцца ацтэкі ды інкі. Няхай іхныя цывілізацыі ня ведалі каня, кола і альфабэту — усе недахопы кампэнсуе змрачнавата-вытанчаная эратычная кераміка і скульптура.

Не давайце веры казкам, нібыта заходняя публіка мае вышэйшыя эстэтычныя памкненьні. Самы вялікі натоўп аматараў мастацтва, як зазвычай, сабрала палатно Лукаса Кранаха "Крыніца маладосьці".

Сюжэт карціны прэтэндуе на глыбокі падтэкст. Яе дамінанта —купальня, да якой пеша, конна, возна й карэтна кіруюцца старыя кабеты. Адну мадам муж альбо каханак цягне на ўласным карку, другую амарант транспартуе на тачцы накшталт тых, зь якімі будавалі Днепрагэс і Магнітку. У чароўную крыніцу цяжка залазяць карготы і сухарэбрыцы, а выбягаюць адтуль гладкія грудастыя маладзёнкі зь зіхоткімі вачыма.

Шматмоўная дыскусія, што адбываецца каля палатна, круціцца вакол таго, чаму ў купальню ня лезуць мужчыны. Дзякуючы прысутным аматаркам выяўленчага мастацтва, кантрапунктам узьнікае тэма блытаніны: аматаркі хвалююцца, ці не пераблытаюць мужы і каханкі сваіх дзівосна паюнелых спадарожніц, бо тыя мяняюцца да непазнавальнасьці, захоўваючы хіба нейкую адмысловую радзімку альбо шнарык ад апэндыцыту. Мужчыны дыпляматычна маўчаць: выглядае, што, трапіўшы на карціну, яны шукалі б асаблівыя прыкметы ня надта заўзята.

У суседніх залях прыемная цішыня.

Мастацтва паўсюль належыць народу.

❏

Бэрлінскі журналіст Дэтлеф Люке перакананы, што чалавек застаецца інтэлігентам датуль, пакуль выходзіць за межы ўласнае спэцыяльнае кампэтэнцыі і пачынае ўмешвацца ў публічныя справы.

Жонка Дэтлефа мастачка Урсула прызнаецца, што паездка ў Расею зрабіла рэзкі паварот у сёнай эстэтыцы. На адным з графічных аркушаў - клады ў паволскім гарадку: схаваныя за высознымі мэталёвымі агароджамі закіданыя сьмецьцем і пустымі пляшкамі магілы. Ніхто зь немцаў ня здольны здагадацца, што гэта такое. "И после смерти тюрьма", - камэнтуе Урсула.

Тэма турмы атрымлівае разьвіцьцё пры каве.

Рандаў ўспомніў дружную турэмную брыгаду "палітычных", на чале якой стаяў самы добранадзейны зьнявolены, што засек сякераю жонку. Турэмныя правілы абавязвалі адміністрацыю забіраць з пасылак шакалял, відаць, з таго часу Норбэрт так любіць шакалядавыя цукеркі.

Я апавядаю гісторыю, як віцэ-прэзыдэнт беларускага ПЭН-цэнтру Карлас Шэрман у юнацтве наведваў у аргентынскай турме пасаджанага за палітычную заварушку Шэрмана-старэйшага. У ліку астатняга зьняволеным забаранялі перадаваць кнігі. Затое ў сьпісе дазволенага да перадачаў фігуравала какава. Убачыўшы ў Шэрмана-малодшага кнігу, жаўнер-ахоўнік рашуча закруціў галавой. Тады Карлас паказаў на сьпіс і на назву кнігі. Жаўнер засумняваўся і паклікаў сяржанта. У таго мазгі працавалі хутчэй, і Карласаў бацька атрымаў у сваёй камэры раман Жоржы Амаду "Какава".

Яшчэ адну какава-шакалядную гісторыю я вырашаю за сталом не варушыць. У 30-я гады ў полацкай перасыльнай турме НКВД "ворагаў народу" ставілі ў яму, якую паступова залівалі разьведзенымі чалавечымі экскрэмэнтамі, чакаючы, пакуль жыжка дойдзе да ніжняе вусьніны, каб яшчэ можна было вырваць прызнаньне. Гэта называлася "зрабіць шакалядавым".

На такой асноведзі сюжэт з канфіскаванымі ў гэдээраўскай турме цукеркамі выглядае бледнавата, і я прапаную выпіць за гістарычны поступ.

❏

Нямецкі кампутар выдаў нам квіткі ня толькі ў розныя купэ, але і ў чужы, маскоўскі вагон, забіты людзьмі й валізамі, быццам на перагоне паміж якім-небудзь Серпухавам і Бугульмай. Я, вядома, не такі прастадушны, каб разьлічваць, што тут хто-небудзь кінецца дапамагаць мне цягнуць па вузкім міжнародным праходзе інвалідную каляску зь Нінаю. Мы былі ўнутрана гатовыя і да таго, што ні ў водным з дваццаці купэ ніхто не пагодзіцца памяняцца з намі месцамі, але, трэба прызнаць, недзе ў пыльным закануркy наіўнай беларускай душы ўсё ж кволілася надзея.

Я з каляскаю бездапаможна стаю ў праходзе. Зьмясіць кулакамі ўсе гэтыя родныя славянскія пысы ў мяне ня хопіць сілы, і я зьвяртаюся да адзінай даступнай мне цяпер зброі. Не, я не тлумачу, што Ніна ня можа хадзіць. Я разумею, што, напэўна, у іншым вагоне "Бэрлін-Масква" магло быць іначай, але ў гэтым атрымалася тое, што атрымалася, і таму я гучна, каб мяне пачулі ад тамбуру да тамбуру, кажу: "Русские — свиньи!"

Яны глытаюць моўчкі, толькі з аднаго купэ вытыркаецца чырванашчокі мардаварот зь ленаватым пытаньнем: "Кто здесь оскорбляет русских, бля?", але, угледзеўшы каляску, хуценька наступае на горла нацыянальнаму гонару і рыўком зачыняе дзьверы.

Нам саступае купэ нямецкая сям'я.

❏

Па пэроне ў памежным Тэрэспалі мытнікі цягнуць у завязаных жаночых калготках два дзясяткі рэквізаваных літровых пляшак гарэлкі.

На століку ў купэ ляжыць "Общегражданский заграничный паспорт СССР". "Срок настоящего паспорта продлён до 2001 года", — чытаю я ў чаканьні памежнага кантролю.

Чацьвертая экспэдыцыя ў Нямеччыну заканчваецца.

Там, за Бугам, Берасьце. Заходняя брама краіны, абрысы якой пакуль што ўзнаўляюцца на палітычных мапах новай Эўропы.

*Сьнежань, 1995.*

* Скарочаны варыянт.








## ЗАНАТОЎКІ ЭГАІСТА

Адам Глёбус

# Кантамінацыі

## з нагоды чытаньня выказваньняў Канфуцыя



❏ Не сябруй з тымі, хто табе ня роўны, і ня бойся выпраўляць уласныя памылкі... Чуеш параду Канфуцыя. Некалькі разоў і мне даводзілася разрываць сувязі з добра знаёмымі людзьмі. Складана сказаць праўду пра тое, што ня будзеш сябраваць. Простыя словы — "калі ласка, не турбуй мяне й маю сям'ю", — а вымавіць іх цяжка.

❏ Выйграе той палітык, які не забывае пра схільнасьць народу праяўляць пакору. Змагацца цяжэй, чым скарыцца.

❏ Калі ўзвысіць і паставіць сумленных над несумленнымі, дык народ прыйдзе да пакоры... Падобнае казаў Канфуцый, калі ў яго пыталіся, як прывесьці народ да паслухмянасьці. Але бяда, што ня кожны сумленны чалавек, узвысіўшыся, застанецца сумленным. У момант узвышэньня большасьць людзей якраз і страчвае сумленьне.

❏ Люблю паслухаць літаратара, які чытае ўласны тэкст.

❏ Галеча й прыніжанасьць — гэта тое, што людзі ненавідзяць... Заўважаеш у Канфуцыя. Але большасьць не дасягае багацьця й знатнасьці, хоць і імкнецца да іх усёй душою, а таму пачынае разам з галечаю наракаць на высакародных.

❏ Малы чалавек сумуе па сваёй зямлі... Прачытаўшы такое, нельга ня ўбачыць у самім сабе "малога чалавека".

❏ Як бы зноў навучыцца спакойна чакаць.

❏ Чым болей жаданьняў, тым больш прыніжэньняў.

❏ Сяброўства — найперш шчырасьць.

❏ Канфуцый раіў шанаваць дэманаў і духаў, але не заклікаў набліжацца да іх. Толькі дэманы й духі, пабачыўшы пашану, самі могуць набліжацца, каб выказаць хоць бы і ўдзячнасьць.

❏ Не шчыруй за жалобным сталом.

❏ Складаньне пэрспэктыўных плянаў, як і любоў да пісаньня ўспамінаў, — занятак чалавечы.

❏ Багацьце і знатнасьць, набытыя несумленна, Канфуцыю падаюцца воблакам, што праплыло міма. Як сумна, што няма ніводнай аблачынкі, якая б не праплыла міма. Хмаркі нябесныя — вечна вандроўныя.

❏ Паразуменьня не дасягнеш прымусам.

❏ Да рэшты выконвай толькі правільны загад.

❏ Сорамна атрымліваць заробак і калі ў дзяржаве ёсьць шлях, і калі яго няма... Знаходзіш у Канфуцыя. Варта зазначыць, што сорамна атрымліваць і ўзнагароды. А колькі людзей імкнуцца ўхапіць як мага большы заробак і найкаштоўнейшыя ўзнагароды? Зрэшты, узнагароды існуюць дзеля суцяшэньня сквапных і зайздросных прадстаўнікоў чалавецтва.

❏ Цяжка жабраку злосьці не займець... Варта пагадзіцца з Канфуцыем. Дарэчы, я ніколі ня кідаю грошы ў жабрацкую шапку, бо ёсьць іншыя месцы, куды можна падзець вольныя фінансы. А жабрак — ён, акрамя злосьлівасьці, яшчэ й няўдзячны.

❏ Пра тое, што нельга браць чужое, ведаеш зь дзяцінства. Але чаму ж цябе не вучылі шукаць толькі сваё месца і ня ставіць сябе на чужое?

❏ Калі за зло плаціць злом, а за дабро сплочваць дабром, можна незаўважна ператварыцца ў люстэрка, дзе ня знойдзецца месца ні спачуваньню, ні чалавечнасьці. Можа таму Канфуцый заўважае: за зло трэба сплочваць згодна з тваім сумленьнем.

❏ Зьдзіўляе адназначнае імкненьне чалавека наблізіцца, каб зразумець; хоць у большасьці выпадкаў трэба, наадварот, зрабіць крок назад.

❏ Ведаеш, вораг не павінен здагадвацца пра твае пляны, але толькі ён можа ацаніць іх каштоўнасьць. Таму так і карціць паказаць ворагу пэрспэктыўныя распрацоўкі, а выйшаўшы за дзьверы, шпурнуць іх у сьметнік. Галоўнае — не складай пляны з тымі, хто йдзе іншым шляхам.

❏ Запросяць — пагаджайся.

❏ Найкарацейшы шлях да ўлады ляжыць праз дабрыню. Але быць добрым цяжэй, чым выкарыстоўваць сілу.

❏ На руінах імпэрый скачуць міталягічныя героі.

❏ Чалавечнасьць — гэта прастата.

❏ Калі нікчэмны чалавек губляе страх, ён робіцца бандытам, бо ў нікчэмных людзей няма сумленьня.

❏ Нават калі чалавек сыходзіць ад людзей і пачынае жыць толькі з жывёламі дый птушкамі сярод расьлінаў, гэтым самым ён імкнецца давесьці ўласную праўду менавіта людзям, а не птушкам, жывёлам і расьлінам. Згадай хоць бы Генры Дэвіда Тора, які сыходам у лес выказаў пратэст супраць грамадзства.

❏ Не аспрэчыш наяўнасьць старэйшых і малодшых. Дык чаму розныя барацьбіты за роўнасьць увесь час спрабуюць абвергнуць заканамернасьць існаваньня багацейшых зь бяднейшымі. Мяркую, з-за недасьведчанасьці. Няма роўных сярод роўных.

❏ Калі твае сябры сышлі з абранага разам шляху, калі здрадзілі агульным ідэалам, якая тады розьніца — жывуць яны, ці іх няма на сьвеце.

❏ З былымі сябрамі пазьбягай сустрэчаў, а пры выпадковых сутыкненьнях не вітайся, нават калі яны першыя пададуць руку.

❏ Майстры працуюць у майстэрнях, бо майстэрства — найперш служба.

# Эмоцыі як мера інтэлекту

*Новыя дасьледаваньні чалавечага мозгу паказваюць, што мера інтэлекту — не IQ (каэфіцыент разумовага разьвіцьця), а нашы эмоцыі.*

Сёньня навукоўцы могуць вызначыць будучыню чалавека, назіраючы за тым, як 4-гадовыя дзеці рэагуюць на пачак зэфіру. Дасьледнік па адным запрашае ў пакой дзяцей і пачынае "пакутлівыя" выпрабаваньні. "Вы можаце зьесьці адзін зэфір адразу ж, — кажа ён. — Але мне трэба на некаторы час сысьці, і калі вы мяне дачакаецеся, то атрымаеце два зэфіры". І ён сыходзіць.

Некаторыя дзеці адразу хапаюць ласунак, не дачакаўшыся, пакуль зачыняцца дзьверы. Іншыя здаюцца праз некалькі хвілінаў. Але ёсьць і тыя, якія чакаюць, чаго б ім гэта ні каштавала. Яны закрываюць рукамі вочы, схіляюць галаву, сьпяваюць сабе пад нос, імкнуцца гуляць самі з сабой і нават засынаюць. Калі дасьледнік вяртаецца, ён дае самым трывалым дзецям сумленна зробленыя ласункі.

Да таго часу, як дзеці з апошняй катэгорыі паступаюць у школу, адбываецца штосьці дзіўнае. Апытваньне бацькоў і выкладчыкаў паказвае, што тыя, хто ў 4-гадовым узросьце цярпліва чакаў зэфір, збольшага расьлі больш таварыскія, вынаходлівыя, сьмелыя, надзейныя і ўпэўненыя ў сабе. Тыя ж дзеткі, якія адразу здаваліся, былі больш адзінотныя, уразьлівыя ды ўпартыя. Яны часьцей схільныя да стрэсу і даволі нерашучыя.

Калі мы гаворым пра бліскучыя разумовыя здольнасьці, у многіх з нас перад вачыма паўстае вобраз Эйнштэйна — гэткая жывая машына думак. Нам заўжды падаецца, што вялікімі людзьмі нараджаюцца. Але чаму прыроджаны талент у адных людзей разгараецца, а ў іншых згасае? Вось тут і неабходна згадаць пра зэфір. Напэўна, здольнасьць устрымацца ад неадкладнага ўзнагароджання ёсьць асноватворны талент, так бы мовіць, трыюмф лягічнага мысьленьня над імпульсіўным. Іншымі словамі — гэта эмацыйны інтэлект, які не праяўляецца пры тэставаньні на IQ.

Тэрмін "эмацыйны інтэлект" належыць псыхолягу зь Ельскага ўнівэрсытэту Пітэру Салавею і навукоўцу з унівэрсытэту Нью-Гэмпшыра Джону Мэеру. Яны ўвялі яго ва ўжытак пяць гадоў таму для апісаньня такіх чалавечых здольнасьцяў, як разуменьне сваіх уласных пачуцьцяў, уменьне паставіць сябе на месца іншага і "кантроль над эмоцыямі для павышэньня ўласнай жыцьцеўстойлівасьці". Гэтае новае паняцьце ўжо ўваходзіць у лексыкон амэрыканцаў. Аднак для зручнасьці яно было скарочана да абрэвіятуры EQ, якая ўпершыню была выкарыстаная ў кнізе "Эмацыйны інтэлект", напісанай навуковым аглядальнікам "Таймс" доктарам псыхалёгіі Дэніэлам Гоўманам. На думку аўтара, усе вядомыя тэсты на вызначэньне IQ сьведчаць пра шанцы чалавека на посьпех менш, чым склад розуму, якім вызначаецца чалавечы характар.

Аўтар правёў не абстрактны досьлед. Ён прапануе практычнае прымяненьне вынікаў досьледу ва ўсіх сфэрах жыцьця — як вызначыць, каго менавіта браць на працу; як павысіць шанцы на больш трывалы шлюб; як бацькам трэба выхоўваць дзяцей, а школам — вучыць іх. Пакуль дзеці яшчэ малыя, заяўляе Гоўман, існуе "магчымасьць нэўралягічнага ўмяшальніцтва", бо сыстэма, якая рэгулюе нашыя дзеяньні ў адказ на пачуцьці, магчыма, атрымвае поўнае развіцьцё толькі ў 15-16 гадоў.

EQ не выключае IQ: ёсьць людзі, якія надзеленыя і тым, і другім. Сёньня навукоўцы імкнуцца зразумець, як гэтыя каэфіцыенты дапаўняюць адзін аднаго: напрыклад, як уменьне спраўляцца са стрэсам узьдзейнічае на здольнасьць сканцэнтравацца ў экстрэмальных сытуацыях.

Эмоцыі — захапленьне, агіда, страх, гнеў — выходзяць з адпаведнай часткі галаўнога мозгу, вядомай пад назваю "краявая сыстэма". Мільёны гадоў таму да яе дадалася і новая кара галаўнога мозгу — нэакортэкс, якая дазволіла чалавеку плянаваць, вучыцца і запамінаць. Пажада паходзіць з краявой сыстэмы, а любоў — з нэакортэксу. Чым больш сувязяў паміж краявой сыстэмай і нэакортэксам, тым большым спэктрам эмоцыяў валодае чалавек.

Падставаю эмацыйнага інтэлекту, ад якога залежаць усе праявы эмоцыяў, ёсьць самасьвядомасьць, гэта значыць уменьне слушна ацэньваць свае пачуцьці. Зразумеўшы прычыну сваёй эмацыйнай рэакцыі — у дзеяньне ўступае нэакортэкс, — чалавеку прасьцей справіцца з сытуацыяй.

Кіраўнікі многіх школаў у ЗША пачынаюць цалкам пераглядаць навучальныя праграмы й сыстэмы тэставаньня навучэнцаў, пільней зважаючы на выхаваньне эмацыйнага інтэлекту. Аднак гэта выклікае адмоўную рэакцыю ў некаторых навукоўцаў. Так, псыхоляг Ельскага ўнівэрсытэту доктар Салавей адзначае: "Я вітаю ідэю навучыць людзей багацей успрымаць сваё эмацыйнае жыцьцё, дапамагчы ім пасьпяхова дасягаць сваіх мэтаў. Але ж я супраць таго, каб іх вучылі падпарадкаваньню прынятым у грамадзтве традыцыям".

Небясьпека ў тым, што гэты працэс можа прывесьці да навучаньня дзяцей аднолькавай, так бы мовіць, "правільнай" эмацыйнай рэакцыі на тую ці іншую сытуацыю — сьмяяцца ў цырку, плакаць на пахаваньнях, спакойна сядзець на занятках. "Можна навучыць трымаць сябе ў рамках, напрыклад, у стане гневу лепш накрычаць, чым праявіць гвалт, — кажа прафэсар псыхіятрыі мэдыцынскага аддзяленьня Гарвардзкага ўнівэрсытэту, доктар Алвін Поўсэнт. — Але ці добра будзе, калі чалавек з разьвітым эмацыйным інтэлектам пачне ва ўсім згаджацца з начальствам?"

*"Time"*



## ФОТАЗАГАДКА



4

Вы мусіце назваць тое, што выяўлена на гэтым здымку. Той, хто слушна адкажа на пяць загадак запар і дашле свой адказ, атрымае каштоўны прэзэнт. У наступным нумары — чарговая фотазагадка!

Масква

# Начныя ўцехі



Штоночы ў закрытым начным клюбе ў адной з колішніх сядзібаў КГБ у Маскве праводзяць вольны час людзі "пачварна багатыя" альбо проста багатыя. Жанчыны й мужчыны, апранутыя ў вечаровыя сукні і цёмныя гарнітуры, мераюць сходы ўніз і ўверх у пошуку забаваў. Ад азартных гульняў, стрыптызу і так званых эратычных танцаў — да неверагодных ды жахліва дарагіх страваў і яшчэ даражэйшага алькаголю, віна ды шампанскага. Побач з сур'ёзнымі мінамі сноўдаюць плячыстыя хлопцы ў цёмных акулярах з калашнікавымі ў руках.

Кошт уступнага квітка — 120 даляраў. І гэта толькі пачатак. Тушаная ялавічына, якая тут мае попыт у заўсёднікаў, каштуе 240 даляраў, дэсэрт з ананасаў — 190, да гэтага яшчэ добрае францускае віно (іншага замаўляць не выпадае), коштам ад некалькіх сотняў да амаль тысячы даляраў за пляшку, якім запіваецца тлустае, востра прыпраўленае мяса.

Забаўляльная праграма гэтага і іншых клюбаў хутчэй багатая, чым густоўная. Сярод штучных пальмаў і асьветленых флюарэсцэнтнымі лямпамі грэцкіх німфаў эратычна скачуць распранутыя танцоркі.

Масква, шматмільённая мэтраполія, была за савецкім часам горадам па-бальшавіцку цнатлівым і, нягледзячы на свае памеры, па-сутнасьці правінцыйным. Сваім жыхарам і гасьцям яна прапаноўвала больш чым сьціплае начное жыцьцё. "Масква рана ідзе спаць", — казалі тады.

Цяпер, як у адзін голас сьцьвярджаюць замежнікі, з часу распаду Савецкага Саюзу і нараджэньня прыватнага бізнэсу, пасьля наступленьня ночы ў Маскве занудзіцца немагчыма. Некаторыя мяркуюць, што лічбаю клюбаў, казыно і іншых начных установаў Масква пачынае даганяць такія мэтраполіі, як Лёндан або Парыж. Яна стала сапраўдным Эльдарада забаваў, даступных, натуральна, для ўладальнікаў вельмі тугіх партфэляў. Ніякіх іншых крытэрыяў няма, ніхто нікому ў біяграфію не зазірае, пасьведчаньняў маральнасьці не пытаецца.

Аднак паводле меркаваньня большасьці маскоўцаў, начныя ўстановы апанаваныя крымінальнымі элемэнтамі.

У гэтым сьвеце закрытых клюбаў і казыно сапраўдныя гангстэры перамяшаныя з "звычайнымі" багатымі бізнэсмэнамі і зь вельмі дарагімі прастытуткамі (5 тыс. даляраў за ноч). Маладыя азартнікі трацяць тут за ноч шмат мільёнаў рублёў.

— Багацьце людзей, якія тут праводзяць вольны час, пераўзыходзіць усякае ўяўленьне, яны маюць нашмат болей грошай, чым найвялікшыя багацеі ў Эўропе, — кажа Ала, 21-гадовая прастытутка ў чорнай міні, якая палюе на кліентаў у самым цэнтры Масквы.

Начныя клюбы памнажаюцца, як грыбы пасьля дажджу. Адныя спэцыялізуюцца на хэвімэталёвай музыцы, другія на джазе, трэція — на стылі тэхна-поп. Ёсьць таксама некалькі (працуюць без рэклямы і ціш-ком) клюбаў гомасэксуалістаў. У адным з такіх кемлівы ўладальнік усталяваў штосьці накшталт вялізнага акварыюму, у якім плаваюць аголеныя маладыя людзі, дэманструючы свае понадзі.

Начное жыцьцё ідзе таксама ў больш як стапяцідзесяці казыно. Ля ўваходу ў адно з найвялікшых, каля Крамлю, на заўважным месцы надпіс: "Любую зброю, у тым ліку газавую, пісталеты і розныя вострыя прадметы належыць зарэгістраваць у ахоўнікаў"...

Штоночы тут тлуміцца блізу тысячы асобаў, спрабуючы шчасьця каля некалькіх дзясяткаў машынаў "Блэк Джэка", "Аднарукага бандыта", сталоў з рулеткамі і косткамі. Хлопцы з налітымі каркамі й залатымі гадзіньнікамі на руках і дэкальтаваныя спадарыні з румянцам на тварах назіраюць бег шарыка ў рулетцы. Шматмільённыя стаўкі тут нярэдкія. Заўсёднікі апавядаюць пра нейкага маладзёна (у джынсах), які кінуў нядаўна на стол фішку вартасьцю 30 млн. рублёў (6000 даляраў).

Маскоўская міліцыя прызнае, што сярод кліентаў мясцовых казыно шмат гангстэраў, але імкнецца ўдаваць, што іх ня бачыць. — Прыходзяць сюды, відавочна, злачынныя элемэнты, але ў нас няма ніякіх доказаў — кажа міліцэйскі прэс-сакратар Уладзімір Бужкоў. — Начныя клюбы — гэта папросту месца, куды зьбіраюцца багатыя, дзе ўзгадняюць інтарэсы і праводзяць час. А таксама, каб сябе паказаць.

Маскоўскія новыя багатыя любяць таксама бавіць ночы ў люксавых лазьнях, дзе, як у добрыя царскія часы, сэрвіруюцца раскошныя стравы і трункі. Такая прыемнасьць даступная таксама для салідна "прыкінутых". Дастаткова сказаць, што ўваход для адной асобы каштуе ня менш за 2500 даляраў наяўнымі.

*AP*

© НАША НІВА Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая Наклад 5000 Нумар падпісаны ў друк 5.5.1996 Надрукавана ў ЗАТ "Lietuvos Rytas" (Вільня, праспэкт Гедыміна, 12а)